20 лістапада 2020 | № 44 (703)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

**У выніку беларусы збудуюць сучасную еўрапейскую краіну**
стар. 4–5

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

9 772218 214005 20044

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
ЛЮДЗІ ПАДЗЕІ ФАКТЫ



Фота www.tut.by

# Калі мы пераможам

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Калі мы ўсвядомім, што выходзім не проста паказаць, як нас шмат, а засведчыць, што будзем стаяць да канца, — тады пераможам.**

Чалавек становіцца дарослым, калі пачынае браць на сябе адказнасць за свае ўчынкі. Бо наша жыццё, а таксама тое, што адбываецца вакол нас, — гэта цалкам наша зона адказнасці.

Нас надта доўга прывучалі, што ўсе нашыя праблемы вырашыць кіраўнік: цар, генеральны сакратар, прэзідэнт. Нас стагоддзямі свядома пераўтваралі ў быдла, якое не думае, жыве інстынктамі і з працы якога можна карыстацца.

Быдла не заяўляе пра свае правы, бо для яго галоўнае, каб гаспадар пакарміў, а астатняе — не важна. Яго могуць заганяць да смерці, біць, пускаць на каўбасы, і ўсе да гэтага прывыклі, — бо на тое ж яно і быдла.

На шчасце, беларусы, здаецца, не пагадзіліся быць быдлам — сведчаннем таму масавыя пратэсты па ўсёй краіне, якія не сціхаюць ужо больш за 100 дзён. Але ці хапае ў нас духу, усведамляючы сябе чалавечымі асобамі, стаць дарослымі? Гаворка тут, вядома, не пра ўзрост, а пра тую самую зону адказнасці.

Ці хапае ў нас духу шчыра адказаць, што мы гатовыя зрабіць для краіны, у якой хочам жыць? Ці гатовыя мы ахвяраваць для гэтага сваім камфортам?

Ці хапае ў нас духу адкрыта называць рэчы сваімі імёнамі: тых, хто падтасоўваў вынікі выбараў, — фальсіфікатарамі, тых, хто цісне і здзекуецца з людзей, — гвалтаўнікамі і катамі, тых, хто аддае і выконвае супрацьзаконныя загады, — злачынцамі, тых, хто працягвае працаваць на рэжым, — саўдзельнікамі злачынства, таго, хто незаконна ўтрымлівае ўладу, — узурпатарам? Нават калі сярод іх ёсць знаёмыя ці нават сябры — ці хопіць нам духу не падаць ім рукі і сказаць у вочы, што яны твораць злачынствы?

Ці хапае ў нас духу прызнацца сабе, што, выказваючыся супраць беззаконня, мы ў любы момант можам трапіць пад рэпрэсіі? І, нягледзячы на гэта, усё роўна не маўчаць?

Ці хапае ў нас духу ўсвядоміць, што барацьба з дыктатурай — гэта не гульня ці казка, дзе добра перамагае зло, а сапраўдная вайна, на якой немагчыма без ахвяраў?

Ці хапае ў нас духу, выходзячы на нядзельны марш, прыняць, што сёння мы можам не вярнуцца дамоў, ці атрымаць калецтва, ці нават быць забітымі? І пры гэтым — усё адно выходзіць?

Калі мы будзем здольныя адказаць на ўсе гэтыя пытанні станоўча, мы станем дарослымі. Калі мы ўсвядомім, што выходзім не проста паказаць, як нас шмат, а засведчыць, што будзем стаяць да канца, — тады пераможам.

# «Там мой быў дом, маё пакліканне»

Андрэй ВІТУШКА

**Гісторыя пачалася ў 1999 годзе. Калі я, студэнт 4 курса медунівера, прыйшоў у аддзел кадраў 7 гарадской клінічнай бальніцы ўладкоўвацца на пасаду медсястры ў вольны ад вучобы час (на начныя дзяжурствы).**

Хацелася быць бліжэй да клінічнай медыцыны, адчуць яе атмасферу ўсім арганізмам. Мне адразу сказалі: «Сходзі ў рэанімацыю нованароджаных — там заўжды трэба людзі». Я мала ведаў пра нованароджаных, вучыўся на лячэбным факультэце (тады не было педыятрычнага) і рыхтаваўся быць нейрахірургам. Тады я яшчэ не здагадваўся, што прыйшоў у месца, дзе знайду сябе.

Сястрынская праца ў рэанімацыі складаная. Заўжды вялікая нагрузка, выдатная трэніроўка ўвагі, хуткасці рэакцыі і мультызадачнасці. Многія доўга не вытрымліваюць, таму мне сказалі, што заўжды патрэбныя работнікі.

Паступова я зразумеў, у якое незвычайнае месца патрапіў — месца, дзе людзі ў літаральным сэнсе аддаюць свае сілы і энергію для жыцця іншых — меншых і слабейшых. І палюбіў гэтую працу і людзей.

У 2001-м я атрымаў дыплом і стаў лекарам у рэанімацыі нованароджаных. Неўзабаве шпітальператвараецца ў рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр «Маці і дзіця». Я вельмі ўдзячны сваім настаўнікам: найперш загадчыцы аддзялення Аксане Якаўлеўне Свірскай. Гэта мая мама ў прафесіі. Яна дапамагла мне і многім вырасці з учорашніх студэнтаў у спецыялістаў. А таксама ўдзячны іншым старэйшым калегам — іх шмат, я баюся каго-небудзь не назваць.

Паступова я зразумеў, што трапіў у самую дынамічную галіну педыятрыі. Сапраўднае шчасце — назіраць і ўдзельнічаць у яе прагрэсе ў свеце і Беларусі. Быць часткай каманды, якая ўпарта працуе над тым, каб больш дзяцей выжывалі і раслі здаровымі. Бачыць поспехі і няўдачы гэтай каманды, ганарыцца дасягненнямі і працаваць над памылкамі, каб рабіць лепшымі вынікі нашай дзейнасці.

Неверагоднае адчуванне — з радасцю ісці на працу і радасна вяртацца дадому.

Я скончыў аспірантуру для таго, каб адказаць на пытанне, як мы лепш можам папярэдзіць цяжкія кровазліцці галаўнога мозга ў глыбоканеданошаных дзяцей — паталогіі, якая за хвіліны мяняе жыццё самога дзіцяці, даючы яму інваліднасць, і мяняе жыццё ягонай сям'і. Таксама імкнуўся пастаянна вучыцца ў сваіх калег сусветнага ўзроўню, каб быць не горш за іх, бо нашыя дзеці гэтага вартыя, а мы на гэта здольныя.

Больш за ўсё ад майго жыццёвага выбару дасталося маёй сям'і — заробкі лекара-рэаніматолага заўжды былі сціплымі. У жыцці я меў некалькі развілак, каб выбраць больш прыбытковы занятак, не звязаны з медыцынай. Але я ўпарта вяртаўся назад — у рэанімацыю нованароджаных РНПЦ «Маці і дзіця». Бо там мой быў дом, маё пакліканне.

Я даведаўся, што праз месяц мяне там не будзе.

Начальнік аддзела кадраў прыйшла сама а 7-й раніцы да мяне на дзяжурства, каб самастойна ўручыць мне «уведомление». Яе перадусім цікавіў мой подпіс (уручыць мусяць за месяц да канца кантракта). Атрымала подпіс і збегла без тлумачэння і размоваў. Потым з пошты я забраў заказны ліст, дзе таксама было «уведомление». На тую ж тэму, але з іншым подпісам (адно падпісаў дырэктар, а другое яго намеснік).

Я па змаўчанні лічу людзей добрымі і стараюся іх разумець. Але чаму не патлумачыць прычыны разрыву працоўных адносін спецыялісту, які 21 год жыцця аддаў шпіталю, якім бы кіруецца, я не магу зразумець. Верагодна, таму, што не хачу, каб прынцып «вы же сами все понимаете» вяртаўся ў нашае жыццё. Бо за ім гніенне, разбурэнне і смерць.

Цяпер адкрыты для прапановаў працы. Хачу толькі спакойна сустрэць Каляды з роднымі. Упершыню за шмат гадоў без недасыпу пасля дзяжурстваў.

Шмат чаго ўмею. Добра разбіраюся ў медыцыне, умею зразумела тлумачыць розныя яе аспекты. Пішу добрыя прафесійныя тэксты. Валодаю англійскай, польскай і крыху нямецкай.

Не збіраюся спыняцца ў працы на карысць святла, дабра, праўды і справядлівасці. Таму што гэта мой абавязак. Як доктара і чалавека.

Вялікі дзякуй за салідарнасць і падтрымку!

# Усю краіну нельга вывесці ў двор і расстраляць

Анастасія РУБАНАВА

**Не пакідае адчуванне, што мы раз за разам прачынаемся ў розных ужо прыдуманых кімсьці раней рэальнасцях. Быццам нехта забаўляецца, перасоўваючы персанажаў з аднаго сусвету ў іншы.**

Напрыканцы 1990-х набыў папулярнасць гродзенскі панкгурт Deviation, які, не шкадуючы змрочных фарбаў ствараў беларускую антыўтопію. З хлопцаў тады шмат хто ціха кпіў. «Шэрыя жаўнеры выбіваюць дзверы», «Сустрэнемся на барыкадах», «Фашызм вылазіць на вуліцы» — гэта пра Беларусь? Сур'ёзна? Праз дваццаць гадоў выявілася — сур'ёзна. Скандальная творчасць Стаса Пачобута стала не пераболыншваннем, а абсалютна дакладным прадчуваннем Беларусі 2020 года.

*Затрыманыя АМАПам на вуліцы,*
*Калі здаецца, перамога так блізка.*
*Асуджаныя і пакараныя,*
*Таму што крычалі, бо маўчаць проста брыдка,*
*Адлічаныя з універсітэтаў,*
*Звольненыя з працы за супраціўленне.*
*Тыя, хто ніколі не марыў пра ўладу,*
*З пагардай да прадаўшыхся пакаленняў.*

Але гэта — толькі пачатак. У жахлівым калейдаскопе штодня змяняюцца да болю знаёмыя сюжэты з розных эпох і жанраў.

«Архіпелаг ГУЛАГ», НКУС, Курапаты, «варанкі», «суды-тройкі», і — начныя затрыманні, бусы без нумароў, канвееры збіцця і судоў з пратаколамі пад капірку і сведкамі ў балаклавах. Катаванні ў сутарэннях і камерах.

Нізкабюджэтны трылер — спаленая хата акадэміка Мрочака і падкінутая лялька з пагрозамі.

Аблога, промні ліхтарыкаў цэляць у цёмныя вокны, людзі ўціскаюцца ў падлогу, праверка дакументаў, ачэпленае гета. Гэта разбураная плошча Перамен, а не кадры з кіно пра вайну. Стаяць шмат гадзін пад прымусам ля сцяны з узнятымі ў гару рукамі — гэта адначасова ў Савецкім РУУСе і зверствы нацыстаў у Гданьску.

Масавая эміграцыя і звальненні пачкамі акцёраў, спартсменаў, навукоўцаў, медыкаў, нарэшце, — нешта з сюжэтаў Рэмарка.

Карыкатурная постаць састарэлага дыктатара з аўтаматам — гэта дакладна сусвет аднайменнай камедыі Сашы Барона Коэна.

Да ўсяго гэтага дадалася рэальнасць са старога анекдота: «Паважаныя жыхары! З заўтрашняга дня ў вашым доме па тэхнічных прычынах будуць адключаныя гарачая і халодная вада, электрычнасць, газ, будуць выбітыя шыбы і вынятыя дзверы...» Хаця людзям у Новай Баравой не да смеху.

Жыхарам мяцежнага раёна прывезлі прыбіральні, здзекліва афарбаваныя ў белы і чырвоны: маўляў, хацелі бчб — атрымайце. Такі вось няўдалы жарт.

Але ўсё гэтае свінства сутыкнулася з ломкай шаблонаў і сцэнараў. У адмыслова створаным тэлеграм-канале проста неймаверная колькасць паведамленняў з прапановай дапамогі: запрашэнні набраць вады, памыцца, сагрэцца, пераначыць. Так, мы не б'ем у адказ, але і не падстаўляем шчаку. Падзеі апошніх месяцаў падзялілі нас на тых, хто аддае і выконвае загады, хавае твар пад балаклавай, здзекуецца, збівае, звальняе, нішчыць знічкі і зрывае стужкі. І на тых, хто насупраць.

Усю краіну нельга вывесці ў двор і расстраляць, закратаваць, перакрыць кісларод і згубіць вентыль. Бо мы не персанажы нейкіх літаратурных сюжэтаў, мы — рэальныя і ствараем будучыню па сваім уласным сцэнары.

# «Мне паступіў сігнал, што вы сказалі дзецям праўду!»

Ганна СЕВЯРЫНЕЦ

**Ідзе не палітычная барацьба, а змаганне, даруйце за пафас, Дабра са Злом. Нейкім незаўважаным, але пераканаўчым чынам канфлікт з палітычнага імкліваператвараецца ў маральны.**

Калі прыняць за маральную норму патрабаванні рэжыму, цяпер у нас з'яўляецца злачынствам: памятаць сваіх мёртвых, ушаноўваць іх памяць кветкамі, даваць прытулак тым, хто ў небяспецы, падвозіць ваду тым, хто яе не мае, казаць праўду, абараняць затрыманых ці звольненых калег і сваякоў, заклікаць да спынення гвалту, апеляваць у сваіх патрабаваннях да народу.

Наадварот, правільным і ўхвальным з'яўляецца: ілгаць, ілжэсведчыць, кідаць сваіх у бядзе, біць нагамі памінальныя лампадкі, выдаваць тых, хто схаваўся ад небяспекі, зачыняць дзверы перад тымі, хто просіць дапамогі. Калі царква заклікае не апаганьваць памяць мёртвых — ёй загадваюць заткнуцца. Калі, наадварот, царква ўхваляе гвалт з людзей — ёй даюць месцы ля мікрафонаў. Калі доктар выказвае спачуванне і міласэрнасць да збітага — доктара звальняюць з працы. Калі доктар у IBC штурхае нагой спакутаванага — ён застаецца працаваць.

Каб зрабіць кар'еру сёння, трэба быць жорсткім, хлуслівым, бессардэчным. Каб гарантавана страціць працу, трэба быць праўдзівым, неабыякавым, прыязным да людзей. Ты можаш проста прынесці кветкі на месца забойства — і будзеш злачынцам. А можаш раскідаць кветкі нагамі — і будзеш паслухмяным грамадзянінам. Можаш абылгаць мёртвага — і выдаваць сябе за ікону маралі. А можаш прад'явіць людзям праўду насуперак гэтай ілжы — і справакаваць забарону на праўду для ўсіх.

Не ведаю, ці заўважаюць гэта тыя, хто сёння трымае на сваіх плячах былую ўладу: як лёгка і як беспаваротна яны звальваюцца ў маральную бездань. Вось ты суддзя, неблагая, напэўна, дзяўчына, харошая дачка харошай мамы, але ты проста вынесла прысуд на падставе ілжэсведчанняў, якія даў не вядомы ані табе, ані іншым Іван Іванавіч Іваноў — і вось ты ўжо на баку Зла. Здаецца, проста выконвала сваю работу (потым так і скажаш). Але дабро і зло не ведаюць межаў паміж работай і не-работай. Немагчыма быць на працы са Злом, а дома — з Дабром. Так проста не бывае. Яшчэ ў палітыцы можна падтрымліваць аднаго, а працаваць на іншага, без праблем. А з дабром і злом такія жарцікі не праходзяць. Ты альбо там — альбо там.

Цяперашняя беларуская Салідарнасць маштабная, касмічная. Яна не мае меры і межаў. Дабро цяпер — гэта пратэст. Што б ты ні рабіў добрага — ты ўжо пратэстуеш. Прывёз вады — пратэстуеш. Пусціў памыцца ці адпачыць незнаёмца — пратэстуеш. Не схлусіў — пратэстуеш. Абараніў слабога — пратэстуеш.

Можна зрэзаць усе стужачкі, разбіць усе лампадкі, пасадзіць усіх з вуліцы, забараніць партрэты Рамана Бандарэнкі. Але з Дабром — што рабіць? Як ты яго забароніш?

І менавіта таму ў гэтым канфлікце перамога — прадвызначаная. Ну так, Зло, бывае, выйграе ў тактыцы. Нават найчасцей так і бывае — тактычна Зло і больш хітрае, і больш жорсткае, і часцяком лепей аплачваецца. Але стратэгічна ў Зла няма ніякіх шансаў. І не проста таму, што так напісана ў Бібліі. А таму, што чалавецтва, каб выжыць і не пажэрці адзін аднаго, ад самага свайго пачатку вымушана трымацца Дабра. Голы практычны сэнс. А беларусы — людзі практычныя.

Хочацца расказаць напрыканцы адну праўдзівую гісторыю. Адна мая знаёмая настаўніца прыйшла ў панядзелак на ўрок збітая, з вялізарным сіняком на твары. На нядзельным маршы яна кінулася бараніць чалавека, якога цягнулі ў бус, і яе ўдарыў у твар амапавец. Дзеці, натуральна, пачалі пытаць: што з вамі? Яна шчыра расказала, як было.

А назаўтра яе выклікаў дырэктар і голасам прарока пратрубіў у яе разбіты твар: «Мне сёння патэлефанавалі з аддзелу адукацыі! Туды паступіў сігнал, што вы ўчора на ўроку сказалі дзецям праўду!»

Мы ішлі з ёю поплеч па праспекце Пераможцаў, зноў была нядзеля, зноў побач было шмат прыгожых людзей, сіняк яе цвіў ужо жоўтым і чорным, і мы смяяліся.

Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Сістэмаўтваральны прынцып аўтарытарных рэжымаў

**«Няма ў свеце дасканаласці!» — уздыхнуў Ліс, калі даведаўся, што на планеце Маленькага прынца, дзе няма паляўнічых, няма і кураў. Такая рэальнасць. Такая праўда жыцця. «Рыба гніе з галавы, але чысціць яе з хваста». «Гучней за ўсіх крычыць “трымайце злодзея” сам злодзей».**

Спіс несправядлівасцяў, адлітых у граніце прыказак, можна лёгка працягнуць, але можна зрабіць прасцей — і пайсці ад жыцця: «Але я катэгарычна супраць, калі парушаецца закон. Там букет парушэнняў. Якія ж тут могуць быць паблажкі, калі вы парушаеце закон?» — сказаў той палітык, чые нарматыўныя акты 17 разоў былі прызнаныя Канстытуцыйным судом неканстытуцыйнымі цалкам або часткова.

Гэтую інфармацыю я ўзяў не са столі, а з паслання Канстытуцыйнага суда пра стан канстытуцыйнай законнасці ў краіне, падрыхтаванага ў лютым 1996-га — і столькі парушэнняў было зроблена ўсяго за паўтара года.

## Над законам

Прынцып адноснасці руху быў сфармуляваны яшчэ Галілеа Галілеем. Адна з яго прыватных высноваў можа быць сфармуляваная наступным чынам: «Ніякімі досведамі немагчыма вызначыць, рухаецца палітык супраць плыні або плынь рухаецца супраць яго».

Многія эксперты мяркуюць, што ў «ліхія 90-я» праблема была не ў палітыцы, а ў плыні, якая ўзнікла на тэрыторыі самай савецкай рэспублікі пасля распаду СССР. З гэтым складана не пагадзіцца. Прынцып адноснасці руху справядлівы не толькі для асобных палітыкаў, але і для лакальных палітычных плыняў: яны могуць рухацца паралельна мэйнстрыму (краіны Балтыі, напрыклад), а могуць і пад любым вуглом да яго.

На думку большасці беларусаў, з «ліхасцю 90-х» трэба было змагацца з дапамогай моцнай прэзідэнцкай улады. Альтэрнатыўны варыянт — навядзенне парадку за кошт асабістай адказнасці кожнага — сур'ёзна не разглядаўся. Гэтым і тлумачыцца вынік першых і апошніх дэмакратычных выбараў у Беларусі ды нядоўгае жыццё прынятай у сакавіку 1994 года Канстытуцыі.

Сёння ў Беларусі па ініцыятыве таго, хто на працягу 26 гадоў дэманстраваў сваё грэбаванне базавымі прынцыпамі канстытуцыяналізму, стала модна разважаць пра неабходнасць канстытуцыйнай рэформы. На ініцыятыву адгукнуліся і палітычныя апаненты. Натуральна, яны пачалі казаць пра неабходнасць «вяртання да Канстытуцыі 1994 года» — гэта значыць, вяртання да той самай Канстытуцыя, якая, нібы картачны домік, разбурылася ад першага штуршку з боку «моцнага лідара».




Мае аднагодкі назіралі гэты штуршок 14 лістапада 1996 года ў прамым эфіры БТ, калі людзі ў цывільным выкінулі з памяшкання ЦВК яго старшыню Віктара Ганчара. Аналагічная доля спасцігла старшыню Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага з генеральным пракурорам Васілём Капітанам за кампанію, якія спрабавалі перашкодзіць самавольству «гаранта Канстытуцыі».

Такой была толькі адна кветка ў раскошным букеце парушэнняў. Далей ішлі суцэльныя паблажкі. Але рэферэндум 1996 года падвёў рысу пад самой магчымасцю кіраўніка дзяржавы парушаць закон, і зрабіў ён гэта метадам, звыклым для нашых «старэйшых братоў», — паставіў першую асобу дзяржавы над законам.

## Дзякуй за шчырасць

Адкрываю артыкул 85 Канстытуцыі: «Прэзідэнт на аснове і ў адпаведнасці з Канстытуцыяй выдае ўказы і распараджэнні, якія маюць абавязковую сілу на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

У выпадках, прадугледжаных Канстытуцыяй, прэзідэнт выдае дэкрэты, што маюць сілу законаў. Прэзідэнт непасрэдна або праз ствараемыя ім органы забяспечвае выкананне дэкрэтаў, указаў і распараджэнняў».

Артыкул 85 — сучасная рэдакцыя парадоксу ўсёмагутнасці: «Ці можа Бог стварыць камень, які сам не здолее падняць?» На практыцы такога кшталту праблема ўзнікае кожны раз, калі палітычны інстытут, што атрымаў усю паўнату заканадаўчай улады, спрабуе рэгуляваць сябе.

**85-ы артыкул Канстытуцыі — гэта смяротны прысуд палітыцы. Артыкул 3, які абвяшчае народ адзінай крыніцай дзяржаўнай улады і носьбітам суверэнітэту, можа нервова паліць убаку**

Прыклад. 31 жніўня беларускія памежнікі не пусцілі ў краіну грамадзяніна РБ арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча. Па словах самага галоўнага памежніка, зроблена гэта было на падставе інфармацыі «пра **магчымасць** (выдзелена. — С. Н.) наяўнасці ў Кандрусевіча не аднаго грамадзянства».

Дзякуй за шчырасць. Памежнікі дзейнічалі згодна з прынцыпам прапаршчыка з анекдота, што рашуча адмовіўся падумаць, перш чым зрабіць дзеянне. Але не варта людзей у пагонах рабіць крайнімі. Яны дзейнічалі ў поўнай адпаведнасці з 85-м артыкулам Канстытуцыі, які прадугледжвае абавязковую сілу ўсіх распараджэнняў самага галоўнага памежніка на тэрыторыі РБ.

Артыкул 85 пазбаўляе Закон вялікай літары і ператварае яго ў той самы дышаль, які можна паварочваць у любы бок, было б жаданне. Але не варта думаць, што правам адвольна абыходзіцца з законам надзелены толькі адзін чалавек у краіне, як не варта кідацца і ў процілеглую крайнасць, надзяляючы такім правам усіх пагалоўна.

Вытворным ад закона адноснасці руху з'яўляецца закон адноснасці дурня, згодна з якім кагнітыўныя здольнасці чалавека наўпрост залежаць ад яго месца ў іерархіі (я — начальнік, ты — дурань).

Сучаснік Аляксандра Пушкіна, яго цёзка шэф жандараў Аляксандр Бенкендорф у гутарцы з выдаўцом «Літаратурнай газеты» Антонам Дэльвігам адзначыў: «Законы ў нас пішуцца для падначаленых, а не для кіраўнікоў, і вы не маеце права ў тлумачэннях са мною імі апраўдвацца і на іх спасылацца».

Нягледзячы на тое, што Дэльвіг, па прызнанні Пушкіна, быў «*сыном лени вдохновенной*», двойчы тлумачыць яму сістэмаўтваральны прынцып аўтарытарных рэжымаў не давялося. Аднаго разу хапіла. Таму не варта крыўдзіцца на хлопцаў у балаклавах, што ў Царскасельскім ліцэі яны не навучаліся. Тое, што не даходзіць праз галаву, дойдзе праз азадак.

## Самая складаная праца

85-ы артыкул Канстытуцыі — гэта смяротны прысуд палітыцы. Артыкул 3, які абвяшчае народ адзінай крыніцай дзяржаўнай улады і носьбітам суверэнітэту, можа нервова паліць убаку. Зрэшты, як і артыкул 6, згодна з якім дзяржаўная ўлада ў Беларусі «ажыццяўляецца на аснове падзелу яе на заканадаўчую, выканаўчую і судовую».

Вось як сам спецыяліст па выданні дэкрэтаў, якія маюць сілу законаў, вызначае сваё месца ў сістэме падзелу ўладаў: «Ёсць судовая, заканадаўчая і выканаўчая галіны ўлады, **над якімі** (выдзелена. — С. Н.), па Канстытуцыі, стаіць прэзідэнт, які іх каардынуе, накіроўвае, “зводзіць”, “разводзіць” і гэтак далей»... Такая вось праца. Самая складаная, самая адказная ў краіне, пра што нам увесь час нагадваюць. Гэта вам не Амерыка. Тамтэйшы прэзідэнт «можа наогул нічога не вырашаць. Яго Кангрэс можа павязаць па руках і нагах, як гэта было з Трампам. Тузаўся-тузаўся, нешта хацеў зрабіць, тэрмін першы прайшоў — так нічога і не зрабіў. У гэтым яго і галоўная бяда». Небарака, адным словам. Ушануем яго прэзідэнцтва хвілінай маўчання.

Іншая ж справа — наш! Ён сам кожнага можа павязаць па руках і нагах, што рэгулярна і робіць. Нездарма ж Канстытуцыя паставіла яго над судовай уладай.

Ён жа ў рэжыме нон-стоп раздае ацэнкі ўсяму таму, што адбываецца як унутры краіны, так і за яе межамі. Гэта дзякуючы яму свет даведаўся, «што мы — канкурэнты сёння, канкурэнты заходнім краінам». Самі заходнія краіны пра гэта ні за што б не здагадаліся.

Гэтым, і толькі гэтым, тлумачыцца маніякальнае імкненне еўрапейцаў і амерыканцаў абараніцца ад беларускіх тавараў мытнымі пошлінамі. Інакш нашы станкі, кампутары і сродкі сувязі збанкрутавалі б тамтэйшых эплаў, інтэлаў ды іншых джэнераў мотарсаў.

Не, нездарма пытанне пра забарону рэкламнага слогана «Купляйце беларускае!» было цэнтральным на апошняй сустрэчы лідараў краін «Вялікай Сямёркі». Усім ім разам і кожнаму паасобку «не патрэбная мірная, спакойная Беларусь».

Час, калі савецкія стылягі на ноч клалі ў шклянку з падсаладжанай вадой жуйку, застаўся ў мінулым. Вектар гістарычнага развіцця разгарнуўся на 180, і цяпер ужо прасунутыя моднікі і модніцы на Захадзе гатовыя жаваць тое, што прапануюць ім майстры беларускага агітпрапа. Калі так пойдзе і далей, то айчынныя напрацоўкі ў сацыяльна-палітычнай сферы таксама пачнуць карыстацца попытам на загніваючым Захадзе.

20 лістапада 2020 | № 44 (703) Новы Час

# Шлях будзе цяжкі, але ў выніку беларусы



Сяргей ПУЛЬША

**Увечары 6 жніўня, заканчваючы вёрстку чарговага нумара «Новага Часу» і развітваючыся, мы казалі адзін аднаму: «Сустрэнемся на наступным тыдні ў новай краіне!» Хтосьці жартаваў: «У Канадзе!» Але ўсе ведалі, што за перыяд выбарчай кампаніі краіна стала іншай. Мы толькі не меркавалі, што настолькі.**






Усе ўсведамлялі, што Лукашэнка не збіраецца аддаваць уладу, і, па яго ж выразе, «будзе трымацца за трон ссінелымі пальцамі». Але ніхто і не думаў, што стануць спраўджвацца самыя жорсткія і натхняльныя, злосныя і самаахвярныя, — карацей, самыя неверагодныя сцэнары.

Больш за сто дзён беларускім пратэстам, беларускаму змаганню. І ўжо можна падвесці пэўную рысу. Гэта мы робім з палітолагам і публіцыстам **Аляксандрам Класкоўскім**.

— На вялікі жаль, прачнуліся мы ўсё ж такі (і жывем сёння) у вайскова-паліцэйскім рэжыме. Тое, што некалі малявалася толькі ў змрочных прагнозах палітолагаў і аналітыкаў, сёння становіцца рэчаіснасцю. Улада адкідае нават тыя драконаўскія законы, якія яна сама ж і напісала. Мы бачым абсалютны прававы дэфолт, тое, што на крымінальным слэнгу называецца «беспределом», тут іншага слова не падбярэш. Сілавікі сёння дзейнічаюць «по-беспределу».

І не толькі сілавікі: да рэпрэсій падключаны ўсе дзяржаўныя структуры — і адміністрацыі прадпрыемстваў, і кіраўніцтва ВНУ. Выкідаюць нязгодных, санстанцыі закрываюць бізнесы, якія спрабавалі далучыцца да страйку. Гэта проста прававы дэфолт, я ўжо не кажу пра маральны дэфолт улады. Фактычна, тое, што мы сёння бачым у Беларусі, можна назваць гуманітарнай катастрофай.

***— Але пратэст і натхняе. Беларусы абудзіліся, і ўжо не толькі палітолагі, але і шараговыя грамадзяне ўяўна падзяляюць паняцці «краіна» і «дзяржава»...***

— Іншымі словамі, за апошнія месяцы ў Беларусі паўстала моцная грамадзянская супольнасць, і паўстае нацыя. Зрэшты, гэта быў працэс, які спакваля ішоў не адзін год. І тут я б падкрэсліў ролю так званай «старой апазіцыі», хаця цяпер у яе збольшага кідаюць камяні. Два з паловай дзесяцігоддзі, якія яна вяла ўпартую барацьбу супраць рэжыму, калі многія не разумелі сэнсу гэтай барацьбы, лічылі гэтых людзей дзівакамі, пачалі даваць плён. І адным з феноменаў стала тое, што бел-чырвона-белы сцяг, нацыянальная сімволіка, сталі сімваламі пратэсту, барацьбы супраць рэжыму Лукашэнкі.

Шматгадовая латэнтная праца, адукацыйная, агітацыйная, з грамадствам, тлумачэнне важнасці каштоўнасцяў дэмакратыі, свабоды, правоў чалавека, нацыянальнай самаідэнтыфікацыі — усё гэта ўрэшце пачало працаваць.

**У мірнага беларускага пратэсту — маральная сіла. Калі ўявіць сабе нейкія іншыя варыянты дзеянняў — сілавікі адразу б раздушылі гэты пратэст, і мелі б апраўданне. А голымі рукамі супраць магутнай машыны не папрэш**

І ўвогуле, змянілася беларускае грамадства. Мы маем грамадства XXI стагоддзя. Гэта сучасныя людзі, нацыя айцішнікаў, нацыя, якая да пандэміі актыўна вандравала па свеце, найперш, па Еўропе, якая трымала першае месца па колькасці выдадзеных шэнгенскіх візаў, нацыя з высокім узроўнем адукацыі. І таму гэтым людзям дзіка слухаць развагі правадыра, што ў 1990-я гады хадзілі ў лапцях, без штаноў, на тры дні было мукі, я палепшыў вам жыццё, і вы ледзьве не ногі мне павінны цалаваць цяпер. Гэта дзіўна для маладога пакалення, дый увогуле для прасунутай часткі грамадства, а цяпер, як мы бачым, і для большыні грамадства, якое хоча іншых стандартаў матэрыяльнага і духоўнага жыцця, хоча еўрапейскіх стандартаў і правоў чалавека.

Нацыя сёння на дзве галавы вышэйшая за Лукашэнку. Ён прыйшоў са сваімі заклінаннямі пра тое, што ён верне светлую мінуўшчыну. Ён і цяпер сядзіць у гэтай мінуўшчыне — усе яго думкі звернутыя не наперад, а назад: «зрабіць, як было», тобок вярнуць краіну ў сітуацыю да 8 траўня, калі былі абвешчаныя выбары. Але гэта нагадвае спробы запіхнуць пасту ў цюбік. Гэта немагчыма — менавіта праз зрухі ў масавай свядомасці. Беларусь ужо ранейшай ніколі не стане.

За гэтыя месяцы ў Беларусі ўзнікла прорва — не проста водападзел, а прорва, — паміж рэжымам і грамадствам, большай часткай беларусаў. Гэта цяпер выразна бачна. Раней Лукашэнка цвердзіў, што ён усенародна абраны прэзідэнт, і адчуваў сябе харызматычным правадыром, якому ніякія пасярэднікі непатрэбныя. Ён нават не даваў стварыць партыю ўлады, і хацеў усю народную любоў усмоктваць адзін. А цяпер наверсе, я думаю, ёсць цвярозае разуменне, што яны трымаюцца толькі на дручках і што паміж грамадствам і рэжымам — прорва.

З аднаго боку, працягваецца эксплуатацыя міфаў, што выходзіць на вуліцы толькі купка адмарозкаў і крымінальнікаў-наркаманаў. З іншага — Лукашэнка пачынае сам сабе супярэчыць, кажучы, што выходзяць жыхары багатых кварталаў, з добрымі заробкамі. Чаго, маўляў, ім нестае?

Гэтыя развагі паказальныя: яны гучаць і ў словах Наталлі Качанавай, калі яна сустракаюцца са студэнтамі, і ў словах Уладзіміра Караніка, прызначанага кіраваць Гродзенскай вобласцю, калі ён дыскутуе ў нейкіх аўдыторыях. Гэтыя людзі ва ўладзе глядзяць на народ як на нейкую масу, якую трэба загнаць у стойла і падкідаць корм, а калі пачынаецца бунт, — для іх незразумела, «чаго ім яшчэ нестае».

То-бок, слова «свабода» ў лексіконе кіроўнай вярхушкі ўвогуле няма. І таму цяжка спадзявацца на нейкі дыялог паміж прыхільнікамі перамен і тымі, хто там наверсе. Гэтая, так бы мовіць, сённяшняя «кіроўная эліта» ўжо апрыёры не можа нічога добрага даць беларускаму грамадству, бо яна засталася ў мінулым тысячагоддзі, яна мысліць феадальнымі катэгорыямі. Для іх тое, што адбываецца, — «бунт прыгонных», трэба браць бізун і заганяць іх назад. І таму, сапраўды, кіроўная вярхушка і грамадства — гэта людзі, якія жывуць у розных вымярэннях, у розных цывілізацыях, у розных галактыках у плане светапогляду. Гэта антаганістычныя супярэчнасці, тут цяжка, на жаль, спадзявацца на нейкі кампраміс і «мяккі» выхад з крызісу.

***— Да 9 жніўня мы разважалі пра магчымасці «Майдана» ў Беларусі і казалі, што гэта будзе «беларускі майдан». То-бок, ён будзе не падобны ні на ўкраінскі сцэнар, ні на армянскі, ні на грузінскі, ні на які-небудзь яшчэ...***

— Феномен беларускага пратэсту ў тым, што ён — выключна мірны. Хаця ўлады імкнуцца паказаць тых, хто выходзіць на вуліцы, «радыкаламі і экстрэмістамі», — гэта пастаянна цвердзяць усялякія начальнікі ў пагонах. Адчуваецца, што ім патрэбныя нейкія інцыдэнты, правакацыі, каб потым у іх былі развязаныя рукі. Аднак гэтая прапагандысцкая карцінка не вымалёўваецца. Так, ёсць асобныя інцыдэнты, таму што розныя людзі выходзяць на пратэсты, але гэтыя інцыдэнты збольшага звязаныя з выпадкамі самаабароны. А пратэст — фенаменальна мірны. Ужо сталі хрэстаматыйнымі прыклады, калі людзі выходзілі на акцыі і развешвалі мяхі для смецця ці здымалі абутак, калі станавіліся на лавы, і гэтак далей.

У гэтым, некаторыя мяркуюць, слабасць і хіба беларускага пратэсту. Асабліва ўкраінскія каментатары ў сацсетках закідалі беларусам нерашучасць. Маўляў, дзе паленне пакрышак, дзе «кактэйлі Молатава».... Потым, калі ў чарговы раз адбыліся падзеі ў Кыргызстане, таксама хто-кольвек стаў ківаць на гэты прыклад: маўляў, там у трэці раз кіраўніка зрынулі, а вы ўсё кветкі сілавікам дорыце...

У мірнага беларускага пратэсту — маральная сіла. Калі ўявіць сабе нейкія іншыя варыянты дзеянняў — сілавікі адразу б раздушылі гэты пратэст, і мелі б апраўданне. Усё адно з голымі рукамі супраць магутнай машыны сілавога блоку, якую за 26 гадоў стварыў Лукашэнка, і аснашчаў яе па апошняму слову тэхнікі, не папрэш.

Гэта ў бальніцах у нас можа быць дабітае і старое, яшчэ з савецкіх часоў, абсталяванне. На прадпрыемствах таксама яно можа быць. А паглядзіце, як з іголачкі апранутыя сілавікі, якія там шыкоўныя стрэльбы, якая новая тэхніка — і вадамёты, і іншае. Таму наіўна спадзявацца, што, калі б пратэстоўцы дзей-

# збудуюць сучасную еўрапейскую краіну

нічалі больш радыкальна, яны б перамаглі.

Кожны раз перад маршамі пратэсту з Уручча да Палаца Незалежнасці ідзе калона БТРаў з буйнакаліибернымі кулямётамі — ведаючы пра гэта, толькі дурань ці вар'ят можа заклікаць ісці на штурм таго ж Палаца Незалежнасці. Будуць штабелі трупаў, і проста страшэнная трагедыя.

Мірны пратэст, усё ж, я думаю, — сіла. Шлях барацьбы за перамены будзе доўгі і цяжкі, але ў выніку ёсць шанец, што беларусы збудуюць сучасную еўрапейскую краіну, краіну прававую, краіну, дзе правы чалавека, жыццё чалавека будуць найвышэй за ўсё. А калі адбываюцца гвалтоўныя рэвалюцыі, то часцяком новая ўлада працягвае гвалт, і гэта расцягваецца на гады і дзесяцігоддзі. Мы добра ведаем гэта на прыкладзе бальшавіцкага перавароту — гвалт пад прыгожымі лозунгамі «Уся ўлада народу».

Я бачу надзею ў мірным характары беларускіх пратэстаў, надзею на тое, што будзе збудавана грамадства больш справядлівае, больш цывілізаванае, больш дэмакратычнае. А не проста замест аднаго Лукашэнкі прыйдзе «Лукашэнка №2», і новая кіроўная вярхушка будзе душыць іншадумцаў.

Іншая справа, што сёння пратэст упёрся ў даволі моцную сцяну рэжыму, які цяпер ужо ператварыўся ў дыктатуру. Аказалася, што гэты рэжым мацнейшы, чым многім падавалася. Нагадаю, у некаторых апазіцыянераў была думка, што калі на вуліцы Мінска выйдзе 100 тысяч чалавек, — рэжым абваліцца. Мы бачылі і 200, і нават болей тысяч, а рэжым не абваліўся.

Гэта адна з праблемаў: праціўнікі Лукашэнкі ў барацьбе супраць рэжыму ніколі не заходзілі так далёка. Яны лунаі ў эмпірэях, будавалі свае пражэкты, і не думалі пра рэальныя метады, шляхі і тактыку барацьбы. Сёння пытанне пра тактыку барацьбы з рэжымам стала рубам, таму што праціг пратэстаў, калі яны з шэрагу аб'ектыўных прычынаў пачынаюць згасаць, — гэта проста, з гледзішча некаторых, кідаць людзей у мясарубку рэпрэсій.

Хоць і неяк не заведзена крытыкаваць апанентаў Лукашэнкі, але я бачу, што каманда Ціханоўскай стала грашыць дэкларацыйнай улётачнай мовай старой апазіцыі. Там паўстаюць нейкія новыя сырыя структуры кшталту Нацыянальнага антыкрызіснага кіравання, калі цяжка зразумець, у чым іх сутнасць і чым яны будуць займацца... Для праціўнікаў Лукашэнкі цяпер таксама абмалёўваліся няпростыя канцэптуальныя выклікі. І ад таго, што яны адкажуць, таксама будзе залежыць перспектыва беларускай рэвалюцыі.

***— Нам закідаюць яшчэ і тое, што, нібыта, гэта пратэст «не каштоўнасны». Маўляў, беларусы хочуць толькі скінуць Лукашэнку і не адказваюць на пытанне, куды пойдзе краіна — на Захад ці на Усход, які́м будзе цывілізацыйны выбар…***

— Давайце раскладзем па палічках. Гаворка ў такіх інтэнцыях вядзецца найперш пра ўступленне ў Еўрасаюз, еўраатлантычныя структуры. Украіна выбрала ў свой час такія арыенціры, і гэта стала трыгерам калізіі, якая вылілася ў Майдан 2013–2014 гадоў. Сапраўды, мы не бачым аналагу ў беларускім выпадку. Але гэта не азначае, што беларусам не ці не блізкія еўрапейскія каштоўнасці.

І ў папярэднія гады сацыялогія паказвала: стаўленне беларусаў да перспектывы ўступлення ў Еўрасаюз становіцца ўсё болей стрыманым і прахалодным — як і да інтэграцыі з Расіяй, дарэчы, а тым больш, да ўступлення ў яе шасцю абласцямі. Умоўна кажучы, беларусы за апошнія гады сталі мысліць, можа, і не зусім у ізаляцыяніцкім ключы, але рабіць стаўку на нейтралітэт, на недалучэнне да нейкіх блокаў і альянсаў. Сацыялогія паказвала, што большасць беларусаў схіляецца да таго, што нам не трэба быць ні ў шчыльным саюзе з Расіяй, ні ўступаць у Еўрасаюз, — а будаваць сваю дзяржаву.

Аднак, як мы бачым па падзеях апошніх месяцаў, беларусы хочуць будаваць дзяржаву з сумленнымі выбарамі, дзяржаву, дзе працуе закон, дзяржаву без здушэння іншадумства, — а гэта і ёсць набор еўрапейскіх каштоўнасцяў. Дэ-факта, беларусы выступаюць за сучасную дзяржаву еўрапейскага кшталту. Таму я хачу падкрэсліць: не трэба блытаць лозунг уступлення ў Еўрасаюз і пытанне, ці падзяляюць беларусы еўрапейскія каштоўнасці. Гэта розныя рэчы.






Акрамя іншага, дзейнічае і глыбінны розум беларусаў, якія ўсведамляюць, што не трэба дражніць рускага мядзведзя. Я ведаю, былі выпадкі, калі на пратэсты нехта выходзіў з еўрапейскім сцягам, яму раілі гэты сцяг схаваць. Не таму, што Еўропа брыдкая. А таму што не варта дражніць Расію нейкімі лозунгамі, якія абуджаюць у суседкі экзістэнцыяльныя фобіі, што Беларусь зараз некуды сыдзе, што натаўскія ракеты будуць стаяць недзе ў раёне Оршы, на падлёце да Масквы, і гэтак далей. І мне падаецца, што гэтыя лозунгі не педалююцца на ўзроўні апазіцыйных лідараў цалкам асэнсавана, а на ўзроўні шараговых пратэстоўцаў — падсвядома: не абуджаць падазрэнні ў антырасійскасці.

Хаця трэба адзначыць, што і сама Еўропа ў апошні час загрузла ў сваіх праблемах, і беларусы бачаць, як разумныя людзі, што Еўрасаюз — не такі зямны рай, як малявалі апазіцыянеры гадоў 15 таму, калі лозунг «Беларусь — у Еўропу!» быў у трэндзе. Гэта ўсё гаворыць на карысць разважлівасці.

***— У нашых умовах прагнозы амаль не маюць сэнсу, але ўсё ж: якія сцэнары выйсця з гэтага ўжо даволі працяглага крызісу? Чым можа завяршыцца гэтая сітуацыя?***

— Трэба разумець, пра што мы гаворым — пра вулічны пратэст ці пра барацьбу за перамены. Гэта таксама розныя рэчы. Вулічныя пратэсты, можа быць, будуць і згасаць з шэрагу прычын: тут і псіхалагічная стомленасць, і халодны сезон з кароткім светлавым днём, і рэпрэсіі, і плюс пандэмія. Усе гэтыя чыннікі працуюць супраць масавасці пратэстаў, таму паўстае пытанне пра змену тактыкі. Напэўна, найбліжэйшым часам штаб Ціханоўскай прапануе альтэрнатыўныя, іншыя формы пратэсту. Але, мякка кажучы, незадаволенасць беларусаў, — а фактычна, гронкі гневу, якія спеюць, — гэта нікуды не падзенецца, і нейкія новыя трыгеры непазбежна спарадзяць новыя, магчыма, больш моцныя, хвалі пратэставай актыўнасці, у тым ліку і вулічнай.

Лукашэнка рыхтуе Усебеларускі народны сход. Потым, як можна зразумець, ён хоча зладзіць рэферэндум па новай Канстытуцыі. І калі ўсё гэта ён хоча рабіць па старых лякалах, калі захоча зладзіць рэферэндум па тым самым стылі, у якім правёў мінулую выбарчую кампанію, то гэта ўсё пагражае выбухам пратэстаў, які ўрэшце можа прывесці да зрынання рэжыму. Менавіта брутальны характар мінулай выбарчай кампаніі і тыя фальсіфікацыі, якія зашкалілі, і вывелі беларусаў на вуліцы.

А інакш правесці рэферэндум Лукашэнка не можа, таму што ступень падтрымкі яго палітыкі цяпер — ніжэй за плінтус. Застаецца зноў праводзіць чарговую электаральную кампанію «по-беспределу». І гэта можа вельмі моцна абурыць беларусаў.

Плюс, сам Лукашэнка прызнаў, што насоўваецца і эканамічны крызіс. Ён не ведае, што рабіць з эканомікай, але сказаў, што будзе прадухіляць гэтую меркаваную «гарачую вясну», і даў зразумець, якімі метадамі ён будзе гэта рабіць. Дый іншых метадаў, апроч задушэння, ён не ведае. Таму гэты комплекс чыннікаў, я думаю, будзе абвастраць супрацьстаянне, глыбіню беларускага палітычнага крызісу. Як бы шчыльна гэтую накрыўку катла не прыціскаў рэжым, праз нейкі час яе, безумоўна, знясе.

Барацьба будзе працягвацца. А рэсурсы рэжыму змяншаюцца і растаюць. Ідзе эрозія сістэмы, нейкія людзі ад яе адколваюцца. Ідзе браджэнне ў элітах, у тым ліку і ў сілавых структурах, проста не ўсё выходзіць на паверхню. Але нават і па кадравых перастаноўках мы бачым, што Лукашэнка непакоіцца, турбуецца, і відаць, не зусім упэўнены ў надзейнасці сілавікоў.

Я думаю, што з вертыкаллю і сілавікамі латэнтна спрабуе працаваць і Масква — дзеля свайго інтарэсу, таму тут могуць быць усялякія варыянты, нават «палацавы пераварот» на пэўным этапе крызісу рэжыму.

Становішча Лукашэнкі і яго атачэння з цягам часу будзе робіцца ўсё болей хісткім. Наколькі гэта працягнецца — тут, канешне, прагназаваць няўдзячна. Я думаю, што і ва ўдзельнікаў пратэсту, і ў каментатараў знікла эйфарыя сярэдзіны жніўня, калі падавалася, што тыдзень-два — і Лукашэнка будзе зваленны. Цяпер зразумела, што агонія рэжыму можа расцягнуцца і на гады, — калі будзе ўсталяваная жорсткая, менавіта вайскова-паліцэйская дыктатура, калі краіна будзе ператворана фактычна ў вялікі канцлагер. Змрочная ноч у Беларусі можа зацягнуцца — да гэтага таксама трэба быць маральна гатовым і тым, хто змагаецца за новую Беларусь. Але «трэба быць спакойным і ўпартым», як спявалася ў старой песні.

***— То-бок, як казала Ціханоўская, «нашае змаганне — марафон, але мы не сыдзем з дыстанцыі»?***

— Гэта можа быць марафон, і звышмарафон, і будуць ставіць падножкі, збіваць з ног тых, хто выправіўся ў гэты марафон. Але трэба бачыць мэту, трэба яго працягваць, іншага выйсця няма. І я думаю, што самі беларусы ўжо не згодныя жыць пры гэтым рэжыме. Пытанне толькі пра метады барацьбы і пра тэрміны беларускай рэвалюцыі.

Мірны характар беларускіх пратэстаў, гуманістычныя ідэалы, якія ўздымаюцца на шчыт, дае надзею, што змены ў Беларусі, — а яны непазбежныя, — будуць усё ж у кірунку пабудовы сучаснай дэмакратычнай прававой дзяржавы.



# «У сне падскочыў, пачаў трэсці краты і

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Зміцер Хведарук у нядаўнім мінулым вядомы як журналіст і актывіст «Маладога фронту». Цяпер ён вучыцца ў семінарыі і рыхтуецца стаць пастарам. За апошнія месяцы хлопец двойчы адбываў арышт, прычым у першы раз ён трапіў на Акрэсціна ў дні самага жорсткага гвалту ў ізалятары.**




Зміцер Хведарук

### «Сказалі — альбо мы цябе забярэм па-добраму, альбо будзе балюча»

— Насамрэч, я не хацеў ісці галасаваць, бо ніколі паход на выбарчы ўчастак не заканчваўся для мяне добра. Я сядзеў у 2006 годзе, калі мяне забралі за два дні да выбараў — мне толькі споўнілася 18, і я тады быў навучэнцам гімназіі. У 2010 годзе мяне зноў падчас выбараў арыштавалі, — распавядае Зміцер Хведарук.

Але сёлета ён не паслухаў інтуіцыю і вырашыў выканаць грамадзянскі абавязак у той самай гімназіі, якую калісьці скончыў і з якой упершыню трапіў на Акрэсціна. Таму на выбарчы ўчастак хлопец пайшоў са складзеным на ўсялякі выпадак заплечнікам: там былі туалетная папера, шкарпэткі, Біблія. Але ў выніку яму так і не давялося гэтым скарыстацца.

Накіроўваючыся з запоўненым бюлетэнем да скрыні для галасавання, Зміцер убачыў у ёй вялікую шчыліну — «памерам з шакаладку "Алёнка"», удакладняе ён. Звярнуўшы ўвагу камісіі на парушэнне, Зміцер і яшчэ некалькі чалавек прапанавалі назіральнікам зафіксаваць яго. Але старшыня камісіі паклікаў міліцыю і напісаў на Змітра скаргу, нібыта той перашкаджае працаваць.

Для разбіральніцтва да Змітра падышлі тры міліцыянты: жанчына-маёр і два курсанты. Калі хлопец пачаў казаць, што яго зараз могуць арыштаваць ні за што, а ім давядзецца за гэта адказваць, жанчына-міліцыянт нават расплакалася. Але гэта не перашкодзіла ёй выклікаць нейкіх невядомых людзей, каб тыя дапамаглі «разабрацца».

— З'явіліся два мардавароты, схапілі мяне пад рукі і сказалі — альбо мы цябе забярэм па-добраму, альбо будзе балюча. Мы выйшлі са школы, мяне пасадзілі ў цывільную машыну, не тлумачачы, хто яны і куды збіраюцца мяне везці, толькі казалі ўсялякія абразлівыя словы.

У Змітра тым часам саспеў план уцёкаў: ён вырашыў адштурхнуць таго, хто сядзеў побач з ім, адчыніць дзверы і збегчы — балазе бегае ён добра. Палічыўшы пра сябе да трох і штурхануўшы бугая, ён тузануў за ручку і... зразумеў, што дзверы заблакаваныя. Відома ж, такі выкрутас не прайшоў дарам: Змітра збілі.

### «Жанчына-маёр з участка прыехала пісаць заяву на звальненне»

Хлопца адвезлі ў Першамайскае РУУС, папярэдзіўшы, што, калі ён яшчэ раз паспрабуе збегчы, на яго завядуць крымінальную справу за непадпарадкаванне. У пастарунку ў яго забралі ўсе рэчы, і нават Біблію — калі ён яе разгарнуў, яго прыкавалі кайданкамі да лавы. Ён прасядзеў так некалькі гадзін, потым яго перавялі ў «стакан» — камеру метр на метр ці на два, дзе знаходзіліся яшчэ 5 чалавек.

— Мы пазнаёміліся, была вельмі прыкольная кампанія. Адзін хлопец — аператар, які ў 9 раніцы здымаў відэа каля будынка адміністрацыі Першамайскага раёна. Да яго падышлі, пасадзілі ў бус і арыштавалі. Яшчэ адзін хлопец — айцішнік, які прыйшоў са сцягам на выбарчы ўчастак. Яшчэ быў мужчына, які проста стаяў на прыпынку каля вуліцы Герояў 120-й дывізіі. І апошні — выпіў з сябрам і пайшоў галасаваць. На яго ўчастак не пускалі людзей, утварылася чарга. Ён спытаў у міліцыянта, што адбываецца, — і яго арыштавалі.

У РУУСе на Змітра склалі пратакол, паводле якога ён парушаў грамадскі парадак, лаяўся матам і не падпарадкоўваўся міліцыі. Рабілі гэта зусім іншыя людзі, а не тыя, хто ўдзельнічаў у затрыманні.

— У пастарунку я пачуў, як жанчына-маёр з участка прыехала пісаць заяву на звальненне па ўласным жаданні. На яе дзіка крычалі, называлі дурай, — узгадвае суразмоўца.

### «Людзей білі бесперапынна 5 сутак»

Пасля вязняў павезлі на Акрэсціна. Змітра неаднойчы арыштоўвалі і саджалі на суткі ў ізалятар, але такога, што ён там убачыў гэтым разам, не было ніколі.

— На Акрэсціна нас прымусілі хутка бегчы праз усю тэрыторыю, завялі ў «адстойнік» — вулічную клетку, дзе мы стаялі хвілін 40. Пасля ўсіх шасцярых змясцілі ў маленькую клетачку, дзе было цяжка стаяць. Распранулі, прыніжалі, але асабліва не білі. Пазабіралі ўсе рэчы, і ў выніку ўсё, што я з сабой склаў, не прыдалося.

**Хлопцу складана апісаць той узровень салідарнасці, які зведала яго сям'я. Пакуль Зміцер быў у зняволенні, сябры падтрымлівалі жонку, дапамагалі яго шукаць, замаўлялі ёй ежу, маліліся, тэлефанавалі. А па вызваленні адна з устаноў харчавання бясплатна пачаставала**

У той момант Зміцер падумаў, што гэта самае горшае, што магло з ім здарыцца. Але ён памыляўся.

Вязняў пасадзілі ў камеру з дэпартантамі з Расіі, Азербайджана і Кітая. Расіянін на той момант сядзеў на Акрэсціна ўжо 9 месяцаў, і менавіта ён трапіў у сюжэт пра ізалятар на дзяржтэлебачанні аўтарства адыёзнага прапагандыста Азаронка.

— Як сцямнела, пачалі прыязджаць аўтазакі, забітыя людзьмі, увесь двор быў запоўнены людзьмі ў масках — вокны нашай камеры выходзілі прама на яго. Гэтыя людзі ў масках з дубінамі, аўтаматамі, пісталетамі, помпавымі ружжамі, крычалі і білі людзей бесперапынна наступныя 5 сутак. Мне грэх скардзіцца, бо асабліва не патрапіла, і ты адчуваеш віну, калі бачыш, што іншых б'юць, а сам знаходзішся нібыта ў бяспецы. Да цябе ў камеру не залятаюць, не выхопліваюць, не прымушаюць крычаць: «Я люблю АМАП» ці спяваць тую ці іншую песню. Але ты ўвесь час гэта чуеш, — узгадвае Зміцер.

Вокны яго камеры выходзілі ў бок Пушкінскай, і адтуль вязні бачылі зарава. Тады яны думалі, што, напэўна, гэта феерверкі — відаць, Ціханоўская перамагла. Толькі пазней, калі ў камеру кінулі яшчэ некалькі людзей, яны даведаліся, што гэта былі святлашумавыя гранаты.

Зміцер бачыў, як людзей збівалі, праганяючы праз калідор, здзекаваліся прымушалі класціся на асфальт. У гэтым удзельнічалі і амапаўцы, і супрацоўнікі ізалятара.

— Усё гэта было вельмі жорстка і брутальна і, напэўна, мая псіхіка не вельмі была да гэтага гатовая, бо на трэці дзень у мяне здарыўся нервовы зрыў: я проста ў сне з месца, дзе я спаў, падскочыў на батарэю і пачаў трэсці краты і крычаць «Сволачы! Што вы робіце?». Хлопцы ў камеры пачалі адрываць мяне ад вакна, і тады я зразумеў, што не сплю.

У камеру, дзе сядзеў Зміцер, на наступны дзень кінулі моцна збітага хлопца з Берасцейшчыны. Аказалася, ён з сябрамі, дрэнна ведаючы Мінск, прыпаркаваў машыну ля будынка Следчага камітэту. Тут жа да іх пад'ехаў бус, хлопцаў выцягнулі з машыны, завалаклі ў будынак СК і моцна збілі. Іх прымусілі падпісаць паперы, нібыта яны кідалі ў будынак ведамства заточаныя балты і раздавалі заточаныя рыдлёўкі.

— Паколькі мы былі ў камеры для дэпартантаў, пра нас на пэўны час проста забыліся. І ў гэтым быў невялікі плюс: у камеры на 8 чалавек не было 11, а не 50, як у іншых камерах, нас кожны раз кармілі, працаваў туалет. У аднаго з дэпартантаў нават было радыё, хоць гэта забаронена, і мы слухалі навіны. Трэба аддаць належнае радыё «Юністар», бо яны, у адрозненне ад астатніх, казалі, колькі арыштавалі людзей, у якіх гарадах адбываюцца пратэсты.

### Лес, калючы дрот і вышкі з аўтаматчыкамі

Больш за трое сутак затрыманых 9 жніўня трымалі ў ізалятары без суда, хаця гэта незаконна. Спахапіліся толькі на чацвёртыя суткі.

Суды адбываліся на Акрэсціна. Усіх паставілі да сцяны на другім паверсе і па чарзе заводзілі ў кабінет, дзе сядзелі

# крычаць “Сволачы! Што вы робіце?”»

суддзя і сакратар. Усё доўжылася не больш за 5 хвілін, суддзя не звяртала ўвагі ні на якія доказы. Зміцер атрымаў 5 сутак за парушэнне грамадскага парадку і 2 сутак за непадпарадкаванне.

Праз некалькі гадзін Змітра і іншых вязняў вывелі на двор, дзе яны стаялі да позняй ночы. Людзям было холадна. У аднаго сталага мужчыны канфіскавалі абутак, і ён стаяў басанож. Толькі на шостую просьбу амапаўцы злітаваліся і далі яму тапкі.

— Я ўбачыў людзей у жудасным стане — скрываўленых, забінтаваных, у падраных нагавіцах, з намаляванымі маркёрамі нумарамі на руках, спіне, ілбе, з абрэзанымі валасамі, — гаворыць Зміцер.

Гэтым разам каля сцяны давялося стаяць 5 ці 6 гадзін. Потым усіх пасадзілі ў аўтазакі і кудысьці павезлі. Па адлегласці зняволеныя зразумелі, што гэта не Жодзіна, а значна далей.

— Нас прывезлі і выгрузілі дзесьці ў лесе, і тут стала крыху страшна. Было цёмна, брахалі сабакі, нам забаранялі ўзняць галаву. Мы яшчэ прастаялі некалькі гадзін на холадзе, нас пастроілі «каробачкамі» па чалавек 20–30, людзі ў ваеннай форме пачалі перапісваць даныя. Я ўзняў вочы і ўбачыў навокал частакол, нейкія баракі, быў чуваць гук сякеры, і людзі нацягвалі калючы дрот вакол будынкаў.

Як і былі, «каробачкамі», арыштантаў адвялі ў душ. Вось толькі, памыўшыся, давялося стаяць мокрымі на холадзе, бо ручнікоў не было.

Пасля кіраўнік установы паведаміў вязням, што яны знаходзяцца ў слуцкім жаночым ЛПП, і паабяцаў добрае стаўленне, лыжкі і падушкі пры добрым стаўленні ў адказ.

— Нас завялі ў казарменнае памяшканне, дзе было шмат двух’ярусных ложкаў, на якія можна было легчы і сесці, што само па сабе выглядала цудам. Можна было нармальна пагутарыць з людзьмі, пасмяяцца, і гэта вельмі дапамагала.

Прачнуўшыся наступным ранкам, Зміцер убачыў, што іх будынак абнеслі калючым дротам. Вязняў вывелі на вуліцу, і аказалася, што за ноч скалацілі вышкі для аўтаматчыкаў.

— Потым завялі ў сталоўку і добра пакармілі — давалі аўсянку на малацэ, і мы падумалі, што ўсё гэта вельмі падазрона, — усміхаецца суразмоўца.

Пасля абеду арыштантам выдалі мыла, каб яны маглі папраць рэчы. Многія, у тым ліку Зміцер, гэта зрабілі. Але раптам прыйшлі вайскоўцы з нейкімі спісамі і пачалі выклікаць людзей, якія мусілі вызваліцца альбо цягам бліжэйшых двух дзён, альбо яшчэ праз 15 сутак. Вязні вырашылі, што іх зноў некуды пераводзяць. Але аказалася, што іх вызвалялі, прычым многія не даседзелі свае суткі.

### «Ашалелі ад падтрымкі і салідарнасці»

— Стоячы пасярод лесу недзе пад Слуцкам мы ўяўлялі, што нам трэба будзе дайсці да нейкага вакзала, каб ехаць у Мінск. Мы прасілі ў міліцыянера, які нас вызваляў, даць хаця б нейкія дакументы, каб нас пусцілі. На што пачулі: «Вас валанцёры падвязуць». Якія валанцёры? Нас выпусцілі за турэмную браму, мы прайшлі метраў сто і ўбачылі акіян людзей. І гэта дзіка шакавала, бо мы думалі, што ўсё дрэнна, людзей арыштоўваюць тысячамі і запалохваюць, і тут убачылі натоўпы людзей з машынамі, піцай, кавай, якія казалі: «Якія вы малайцы!», «Трымайцеся!». Мы ашалелі ад такой падтрымкі і салідарнасці, бо гэта вельмі моцна кантраставала з тым канцлагерам, што мы бачылі, — дзеліцца ўражаннямі Зміцер.

Гэта адбылося 14 жніўня. Акурат напярэдадні, ад позняга вечара 13 жніўня, пасля нечалавечых катаванняў пачалі выпускаць вязняў, якіх трымалі ў ЦІП на Акрэсціна. Каля гадзіны ночы туды прыехаў намеснік міністра ўнутраных спраў Аляксандр Барсукоў і сказаў, што да раніцы ўсіх выпусцяць. Тое ж самае тычылася і вязняў, якіх падчас першых дзён пратэстаў звезлі ў іншыя месцы зняволення.

У вялізнай чарзе людзей, што прыехалі падтрымаць тых, хто вызваліўся, Зміцер сустрэў сваіх дзядзьку з цёткай, з якімі даўно не кантактаваў. Пратэсты паўплывалі і на іх, гаворыць суразмоўца, бо раней яны былі апалітычнымі, а тут адмыслова прыехалі, каб забраць пляменніка. Так што прынамсі адзін плён — прымірэнне сям’і — ад беларускай рэвалюцыі атрымаўся.



**На Акрэсціна нас прымусілі хутка бегчы праз усю тэрыторыю, завялі ў «адстойнік» — вулічную клетку, дзе мы стаялі хвілін 40. Пасля ўсіх шасцярых змясцілі ў маленькую клетачку, дзе было цяжка стаяць. Распранулі, прыніжалі, але асабліва не білі**

### У ноч на 30 жніўня забіў у камеры таракана

Другі раз падчас сёлетніх пратэстаў Змітра Хведарука затрымалі напрыканцы жніўня каля Чырвонага касцёла. Гэтым разам у Першамайскім РУУСе даводзілася сядзець у спартзале (дазвалялі нават ляжаць), доўга стаяць ля сцяны. Пасля Змітра павезлі на Акрэсціна, дзе адбыўся суд — і хлопцу далі 7 сутак, якія ён адбываў у Жодзіна.

— Быў забаўны момант: у Лукашэнкі 30 жніўня былі народзіны, і ў камеры на Акрэсціна ў ноч на 30 жніўня я забіў таракана, — усміхаецца Зміцер.

Гэтым разам зверстваў міліцыянтаў не было, наадварот, кажа Зміцер, прысутнічала паказушнасць: мауляў, глядзіце, як добра мы да вас ставімся.

Цяпер Зміцер Хведарук распавядае пра свае прыгоды з іранічнай усмешкай. Але і да сёння ён час ад часу адчувае раптоўныя прыступы трывогі і бяссонніцы. За час сваіх двух адсідак ад стрэсу ён страціў 7 кілаграмаў вагі.

Зміцер, што прайшоў праз арышты, раіць тым, для каго рэальная перспектыва трапіць на суткі (а такіх цяпер як мінімум некалькі соцень тысяч чалавек), не губляць прысутнасці духу і не нагнятаць, не думаць, што можа здарыцца нешта горшае. А яшчэ ў такіх цяжкіх сітуацыях, як ні дзіўна, вельмі дапамагае гумар. Зміцер узгадвае, што ў Жодзіна міліцыянты нават рабілі вязням заўвагі, бо ў іх камеры пастаянна гучаў смех.

### «Мы ўсе вінаватыя»

У тым ліку дзякуючы арыштам Змітра, з’явіўся шэраг відэасведчанняў хрысціянаў, якія трапілі пад рэпрэсіі падчас сёлетніх пратэстаў.

— Я даведаўся, што, на вялікі жаль, многія хрысціяне абыякава ставяцца да ўсіх гэтых падзей альбо вельмі цынічна іх каментуюць. І мы вырашылі зрабіць такі праект — спецыяльна здымалі вернікаў, якія трапілі пад рэпрэсіі. Сярод іх быў шматдзетны бацька, які хацеў памаліцца ў цэнтры горада са сваімі братамі, і іх катавалі шокерамі; чалавек, які проста вяртаўся дадому; мая жонка, якая распавяла, як гэта — не ведаць, дзе знаходзяцца твае родныя, пра якіх табе не кажуць 5 дзён. Вернікі павінны разумець, што нельга маўчаць у гэтай сітуацыі. Гэта не проста нейкая палітычная барацьба, гэта больш сур’ёзная сітуацыя.

Для самога Змітра самым цяжкім падчас зняволення стала адчуванне ўласнай бездапаможнасці, калі людзей збівалі, а ён нічога не мог зрабіць. Для сябе ён знайшоў тлумачэнне жорсткасці сілавікоў, якая і цяпер працягваецца ў турэмных засценках.

— На вялікі жаль, мы ўсе вінаватыя. Цягам 26 гадоў збольшага мы абыякава ставіліся да ўсяго, што адбывалася, і заахвочвалі сістэму, якая гадавала гэтую машыну сілавікоў і беспакаранасці. Але раптам каронавірус і палітычная сітуацыя паказалі, што гэта — наша агульная бяда, нам трэба з ёй разбірацца і браць адказнасць за ўсё, што адбываецца. Гэта вельмі важны момант для 9 мільёнаў людзей, каб перабудаваць не толькі сістэму, але і сябе таксама, адыйсці ад гэтых сацыялістычных уяўленняў, што дзяржава нешта павінна, а быць больш адказнымі на ўсіх узроўнях жыцця.

Яшчэ перад выбарамі Зміцер рабіў для сваіх знаёмых вандроўкі па Курапатах, распавядаў пра тое, як Сталін выбудаваў сваю рэпрэсіўную сістэму. Аказалася, што многія людзі ніколі не бывалі ў такіх месцах.

— Мне здаецца, тут можна праму лінію правесці, што, на вялікі жаль, пасля ўсіх жахаў ХХ стагоддзя, мы проста, як кажа Лукашэнка, перагарнулі старонку. Таму не варта здзіўляцца, што гэта паўтараецца зноў. Не адбылося асэнсавання гэтага ўсяго і пакаяння.

### Зло — не ўсёмагутнае

— Я разумею, што ў гэтым жыцці могуць адбыцца самыя страшныя рэчы. Але як хрысціянін, я бачу больш шырокую карціну і разумею, што вернецца Хрыстос і адновіць гэты свет. Таму гэта падтрымлівала. А яшчэ гэтым летам я ўбачыў тысячы не вядомых мне беларусаў, якія сталі народам. Я вельмі рады, што шмат беларусаў паўсталі супраць бяспраўя ў краіне. Зло — не ўсёмагутнае, яго рэсурс абмежаваны і не такі вялікі, як нам здаецца.

Хлопцу складана апісаць той узровень салідарнасці, які зведала яго сям’я. Пакуль Зміцер быў у зняволенні, сябры падтрымлівалі яго жонку, дапамагалі яго шукаць, замаўлялі ёй ежу, маліліся, тэлефанавалі. А па вызваленні адна з устаноў харчавання ў раёне, дзе жыве Зміцер, бясплатна пачаставала яго.

Падчас свайго зняволення Зміцер заўважыў цікавую асаблівасць сёлетніх пратэстаў. Калі раней на мітынгі выходзіла, у асноўным, інтэлігенцыя, то цяпер пратэсты закранулі абсалютна розныя слаі насельніцтва: гэта і людзі з зусім мізэрным дастаткам, і айцішнікі, і сярэдні клас. І калі раней на Акрэсціна сярод «палітычных» большасць былі беларускамоўныя, то цяпер Зміцер аказаўся адзіным з сукамернікаў, хто гаварыў па-беларуску. Усё гэта сведчыць пра глабальныя зрухі ў свядомасці вялікай колькасці людзей.

— Яшчэ ў ліпені я скептычна ставіўся да пратэстаў, але атрымліваецца, што я не меў рацыі. Не ведаю, што будзе зімой — мабыць, пратэст не будзе такім масавым па зразумелых прычынах. Але эканамічная сітуацыя відавочна гуляе на баку пратэсту, — падсумоўвае Зміцер Хведарук.



# «Гэта наш дом»

Алег НОВІКАЎ

**У нарысах Іллі Эрынбурга ёсць апісанне Берліна 20-х гадоў мінулага стагоддзя як горада, моцна падзеленага на два вялікія блокі з палярнымі палітычнымі сімпатыямі яго жыхароў.**



На захадзе мегаполісу прапісаліся буржуа, якія галасавалі за правыя партыі. Ім супрацьстаялі жыхары рабочых паўночных і ўсходніх кварталаў. Даходзіла да таго, што Вестэрн і Остэрн (так Эрынбург называе блокі) часта дражнілі адно аднаго. Напрыклад, жыхары Вестэрна любілі заходзіць на тэрыторыю Остэрна і спяваць патрыятычныя куплеты накшталт «Deutschland uber alles».

Такая ўрбаністычная геапалітыка ўласцівая любому буйному гораду. У Лондане пралетарыят або люмпен з Іст-Энду заўжды скоса глядзеў на арыстакратаў Чэлсі. Свой палітычны каларыт мае Усходні Каракас, дзе пражывае заможны клас — апаненты цяперашняга рэжыму Чавеса. Канфрантацыя з Заходнім Каракасам, дзе, наадварот, замацаваліся аматары Чавеса і Мадура, настолькі моцная, што Усходняму Каракасу нават дазволілі абіраць свайго мэра.

Паступова, па ходзе таго, як класавыя супярэчнасці перастаюць быць такімі моцнымі, назвы гарадскіх раёнаў шмат дзе губляюць палітычную афарбоўку. Аднак спробы палітызацыі ўрбаністычнай прасторы заўжды былі. У 60-я гады мінулага стагоддзя аматары моладзевых субкультураў захоплівалі пустыя будынкі і нават кварталы, дзе спрабавалі будаваць мікрамадэль свайго, альтэрнатыўнага бачання свету.

Паколькі, як правіла, гэта былі прыхільнікі левых поглядаў, жыхары захопленых аб'ектаў прасоўвалі інстытуты наўпроставай дэмакратыі, калі ўсе рашэнні прымае агульны сход жыхароў. Вельмі часта такія будынкі станавіліся кропкамі грамадска-культурнага жыцця — пачынаючы ад тэатральных студый ды радыёстанцый і заканчваючы цэнтрамі дапамогі бяздомным.

Зрэшты, ёсць і «правыя» захопнікі дамоў або, як іх яшчэ называюць, сквотэры. Напрыклад, італьянскі цэнтр Casa Pound, які функцыянуе з 2003 года. Праўда, ад левых праектаў ён адрозніваецца хіба толькі тым, што прынцыпова не працуе з імігрантамі і надае вялікую ўвагу прапагандзе спорту. Акрамя таго, пачынаючы з выбараў 2011 года, Casa Pound прадстаўляе сваіх кандыдатаў на мясцовых выбарах і яго чальцы нават здолелі трапіць у нейкія муніцыпальныя рады.

Найбольш далёка ў накірунку палітызацыі ўрбаністычных аб'ектаў, напэўна, зайшлі ў Даніі. Там у пачатку 1970-х гадоў хіпі акупавалі комплекс пустых казармаў. Так паўстаў славуты раён «Хрысціянія», які з часам здолеў атрымаць легальны статус і нават пэўную прававую аўтаномію. Праўда, гэта быў нялёгкі шлях, этапамі якога таксама былі бойкі з паліцыяй і гандлярамі наркотыкамі.

Яркая гісторыя — у берлінскіх захопнікаў дамоў. Усё пачалося ў часы «халоднай вайны», калі Заходні Берлін быў выспай унутры Усходняга блоку. Таму звычайныя бюргеры трошкі баяліся інвеставаць у лакальную нерухомасць або праводзіць капітальны рамонт будынкаў, якія шмат дзе стаялі пустымі. На пачатку 1980-х моладзь, і нават людзей больш саліднага ўзросту, ахапіла мода засяляцца ў такія памяшканні без дазволу. У 1981-м толькі за адзін тыдзень у Заходнім Берліне захаплілі каля тузіна будынкаў. Усяго за той год акупавалі 164 дамы, а песня-гімн захопнікаў «Гэта наш дом» у выкананні гурта Ton Steine Scherben стала ледзьве не хітом.

У адказ мэрыя санкцыянавала правядзенне 22 верасня 1981 года шырокамаштабнай паліцэйскай аперацыі. На першым этапе планавалася эвакуацыя сквотэраў з васьмі так званых «апорных пунктаў». Падчас аднаго высялення адбыўся сур'ёзны інцыдэнт, у якім загінуў 18-гадовы пратэстовец, што абвастрыла супрацьстаянне. У выніку Ратуша пры падтрымцы Евангелічнай царквы вырашыла праводзіць больш мяккую лінію на легалізацыю захопленых дамоў.




Пры гэтым многія з захопнікаў адмаўляліся ад легальнага статусу, разглядаючы нелегальнае становішча як прынцыповую ўмову барацьбы з капіталізмам і ўладай. Сапраўдным падарункам для гэтай катэгорыі стала падзенне Берлінскай сцяны, па той бок якой, ва Усходнім Берліне, таксама знаходзілася мноства пустых дамоў. Карыстаючыся прававым хаосам і развалам сілавых структур у ГДР, часам атрымлівалася захопліваць цэлыя вуліцы — напрыклад, вуліцу Майнцэр Штрасэ, што ў раёне Фрыдрыхштад.

Праект Майнцэр Штрасэ праіснаваў сем месяцаў, пакуль роўна 30 гадоў таму, у лістападзе 1990-га, супраць яе 417 жыхароў пачалася буйная паліцэйская аперацыя з удзелам трох тысяч сілавікоў. З неба іх падтрымлівалі верталёты, якія дэсантавалі спецназ на дахі. Таксама ў ход пайшлі вадамёты і слезацечны газ. Колькасць параненых вымяралася сотнямі. Не пашкадавалі нават былых дысідэнтаў ГДР, якія спрабавалі заблакаваць рух паліцэйскіх БМП.

Гэтая акцыя лічыцца адной з самых жорсткіх паліцэйскіх аперацый у пасляваеннай гісторыі Германіі. Нездарма прэса апісвала тыя падзеі як «бітву на Майнцэр Штрасэ». Жорсткасць паліцыі выклікала ўсеагульнае абурэнне нават у колах кааліцыі левых партый, што кіравалі горадам. У выніку мэр Берліна падаў у адстаўку.

Трэба адзначыць, што берлінскі прыклад не з'яўляецца тыповым. Гісторыя ведае шмат іншых варыянтаў, як стварыць «дзяржаву ў дзяржаве». Тая ж «Хрысціянія» атрымала легальны статус дзякуючы таму, што стала сапраўдным турыстычным атракцыёнам. Дзякуючы мастацтву выстаяў і міланскі цэнтр Леанкавала. Яго жыхары адмаўляліся высяляцца — ды неаднаразова змагаліся з сіламі праваахоўнікаў, нават і коштам чалавечых ахвяр. Сітуацыя стабілізавалася ў 2006 годзе, калі чыноўнікі гарадскога культурнага дэпартаменту ўключылі графіці на мурах цэнтру ў пералік і каталогі турыстычных аб'ектаў.

Цікава, якім будзе беларускі варыянт?

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

«Часцей за ўсё тэзіс расійскага кіраўніцтва выяўляецца ў тым, што палітычны крызіс — гэта "ўнутраная справа беларусаў, і яны самі разбяруцца". І калі следам няма ніякай рэакцыі, то ёсць вялікая верагоднасць, што пытанне пераемніка і датэрміновых выбараў у Беларусі — пытанне для расійскага кіраўніцтва непрынцыповае. І версія пра дамоўленасці бакоў пра пераемніка была, верагодна, разадзьмутая СМІ і Telegram-каналамі. Пры адсутнасці рэакцыі Масквы можна будзе казаць і пра тое, што прынцыповым для расійскага боку застаецца толькі пытанне недапушчэння збліжэння Беларусі з Захадам пры любой уладзе ў рэспубліцы».

**Взгляд (Расія)**

«Расія атрымлівае велізарны ўплыў на сваіх кліентаў. АЭС немагчыма проста так адключыць і закрыць. Зрабіць гэтага не дазваляюць як меркаванні бяспекі, так і тое, што спатрэбіцца шукаць альтэрнатыўныя крыніцы энергіі. Калі электрастанцыя ў Астраўцы выйдзе на праектную магутнасць, яна будзе выраблясь столькі электраэнергіі, колькі выпрацоўвае палова ад усіх цяперашніх беларускіх электрастанцый. Гэта дазволіць закрыць шэраг старых невялікіх аб'ектаў, якія працуюць цяпер на расійскім газе. Тэарэтычна, такім чынам залежнасць ад Расіі знізіцца, але, з іншага боку, для бяспечнай эксплуатацыі новай АЭС давядзецца весці супрацоўніцтва з расіянамі».

**Gazeta.pl (Польшча)**

«Брусель не спяшаўся да гэтага часу з радыкальнымі мерамі, разумеючы, што ў такім выпадку ЕС не пакіне Лукашэнку іншага выбару, акрамя як тэрмінова інтэгравацца з Расіяй, што на наступным вітку выльецца ў гарачае супрацьстаянне калектыўнага Захаду і Расіі. Планы замежнай КР апазіцыі не мелі належнага эфекту — ні страйк, ні «эканамічны сабатаж», ні моладзева-медыцынскія бунты не спалохалі ўладу. Так што ўкраінскі сцэнар быў запушчаны, увогуле, ад безвыходнасці. Цяпер і ў пратэстоўцаў унутры краіны варыянтаў няшмат: альбо сотнямі і тысячамі ісці на пагібель, альбо ад маршаў інвалідаў і пенсіянераў пераходзіць да штурму рэзідэнцый і РУУС. На што ў выніку рашацца Еўрасаюз і ЗША, высветліцца бліжэйшым часам».

**Кадара (Расія)**

«Беларусь не належыць да краін з ліберальнай дэмакратыяй, але мабілізацыя пратэснага руху сведчыць пра тое, што апазіцыя атрымала поспех на фронце "пазіцыйнай вайны" (яе стратэгію апісваў Антоніа Грамшы). Лукашэнка ў значнай ступені страціў здольнасць падтрымліваць у грамадстве згоду на існаванне сістэмы аднаасобнага праўлення, сталі з'яўляцца элементы грамадзянскай супольнасці. Пачалася манеўраная вайна, ролю апарата падаўлення ўзмацнілі, хоць Лукашэнка ўжо паспеў згубіць падтрымку значнай часткі грамадзян».

**Myśl Polska (Польшча)**

# Назарбаеў наступны?

Алег НОВІКАЎ

**Чым бліжэй да заканчэння парламенцкая кампанія ў Казахстане, тым больш спекуляцый пра тое, што для аўтакратыі Назарбаева ўсё скончыцца беларускім сцэнарам.**


www.rosinform.ru

Днямі лонданская The Times падзялілася кур'ёзнай інфармацыяй наконт юрыдычнага ўладальніка будынку на Бейкер-Стрыт, 21Б. Менавіта тут, як вядома, паводле твораў Артура Конан-Дойля, жыў і працаваў славуты дэтэктыў Шэрлак Холмс. Высветлілася, што зямля і памяшканне належаць дачцэ экс-прэзідэнта Казахстана Дарызе Назарбаевай і яе сыну, якія выклалі за нерухомасць 140 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў. У сувязі з гэтым некаторыя медыя жартоўна прапанавалі называць Дарыгу не інакш як «місіс Хадсан».

Напэўна, у іншы час такі жарт падаваўся б смешным. Аднак цяпер гэта навіна, хутчэй, можа мець іншы эфект. Інфармацыя пра каласальныя сродкі з невядомымі крыніцамі паходжання, якімі валодае эліта Казахстана, яшчэ больш узмацняе пратэставы патэнцыял у грамадстве.

Пра яго пачалі актыўна пісаць, калі каментавалі апошні «кыргызскі Майдан». Нават дылетант бачыў, што механізмы, якія выклікалі бунт у Бішкеку, дзейнічаюць і ў суседнім Казахстане. Перш за ўсё, гэта адмоўныя сацыяльна-эканамічныя наступствы эпідэміі і практыкі татальнага каранціну ўвесну.

Валавы ўнутраны прадукт Казахстана за першыя пяць месяцаў 2020 года знізіўся на 1,7%. Паколькі цэны на сыравінных рынках паказалі самае моцнае падзенне з 1990-х гадоў, асноўны ўдар прыйшоўся на нафтагазавую галіну. Між тым, 15% казахстанскага ВУП фарміруецца якраз нафтагазавым сектарам. Паводле папярэдніх ацэнак, праз крызіс армія тых, хто жыве за мяжой беднасці, вырасла да 800 тысяч чалавек.

Градус напружанасці ўзмацняе і фактар закрытых межаў. Немагчымасць працаваць за мяжой прымусіла некалькі мільёнаў чалавек застацца на радзіме. Паколькі, як правіла, гэта мужчыны да 30 гадоў, у краіне з'явілася дадатковая вялікая сацыяльная і патэнцыйна актыўная група незадаволеных.

Рост незадаволенасці сярод насельніцтва накладаецца на выбарчы каляндар, паводле якога 10 студзеня 2021 года павінны прайсці выбары ў Мажыліс (ніжнюю палату парламента) і рэгіянальныя масліхаты (мясцовыя прадстаўнічыя органы). Цяпер заканчваецца першы этап кампаніі, калі партыі, паводле закону, праводзяць з'езды і складаюць спісы кандыдатаў.

У прынцыпе, мясцовыя выбары ў Казахстане даўно з'яўляюцца праформай. Аднак гэтым разам Акорда (адміністрацыя прэзідэнта), падаецца, адчула небяспечныя сігналы, і яшчэ ўвесну запусціла пакет маштабных дэмакратычных рэформаў.

Электарату кінуты пернік у выглядзе ўвядзення інстытута парламенцкай апазіцыі. Цяпер аднаго старшыню і двух сакратароў пастаянных камітэтаў Мажыліса будуць рэкрутаваць з ліку дэпутатаў парламенцкай апазіцыі. Апошняя таксама надзяляецца правам ініцыяваць правядзенне парламенцкіх слуханняў не менш як адзін раз на працягу адной сесіі. Павялічана абавязковая квота ў партыйных спісах для моладзі.

Магчыма, гэта і магло б стаць нейкай прынадай для выбаршчыкаў. Аднак толькі не ў краіне, дзе ўсе шэсць партый, якія допускаюцца да выбараў, лаяльныя на адрас існуючага рэжыму. Тым больш, партыі, якія называюць сябе апазіцыйнымі, не маюць сваёй ідэалогіі ды мала вядомыя простаму абывацелю. Яны з'яўляюцца на інфармацыйным полі толькі падчас выбараў, калі для назіральнікаў з АБСЕ трэба рабіць ілюзію плюралізму.

Таксама загадзя вядома, хто атрымае большасць месцаў у парламенце. Галоўны трафей дастанецца кіруючай партыі «Нур Атан», лідарам якой з'яўляецца былы прэзідэнт Казахстана Нурсултан Назарбаеў, і які фактычна кіруе дзяржавай і цяпер.

Менавіта на ўгоднiцтва чыноўнікаў, якія дакладна будуць маляваць праўладнай партыі завоблачныя працэнты, і робіць стаўку апазіцыя. Паводле яе разлікаў, народ, шакаваны данымі ЦВК, выйдзе на вуліцу. Пры гэтым, у адрозненне ад Кыргызстана або Беларусі, маніфестанты не будуць патрабаваць адстаўкі Елбасы. На першым этапе яны вылучаць лозунг удзелу ў выбарах сапраўдных апазіцыйных партый — нават з захаваннем існуючай рэдакцыі выбарчага кодэксу. Такі фокус, мяркуючы, дазволіць схіліць на свой бок частку вертыкалі, якая дапускае неабходнасць пераменаў.

Так ці інакш, для каардынацыі будучых пратэстаў апазіцыйнымі цэнтрамі, быццам, ужо праводзяцца нейкія семінары. Праўда, хто тыя апазіцыянеры, пакуль не зразумела. Касцяк апазіцыі даўно знаходзіцца за мяжой краіны, і, калі меркаваць па змесце іх выказванняў, асаблівых планаў на выбары не мае. Можна дапусціць, што гаворка ідзе пра нейкіх алігархаў, якія нешта не падзялілі з кіруючым кланам.

Акрамя таго, калі глядзець на прэсу, як уладай, так і апазіцыяй актыўна вывучаецца актуальны беларускі вопыт. Паводле інфармацыі парталу Zona.kz, у нейкіх беларускіх апазіцыянераў закупленыя правы на выкарыстанне сістэмы падліку «Голас» па перасылцы даных са смартфонаў. У сваю чаргу, улада, калі меркаваць па тых жа публікацыях, з беларускага досведу таксама зрабіла адназначную выснову — ні ў якім разе не дапусціць з'яўлення ў краіне ў выпадку хваляванняў яскравых лідараў.

Што будзе ў выніку — загадка. Пакуль дакладна можна казаць, што ніколі раней такіх эмоцый выбары, прычым больш, чым за месяц да іх правядзення, не выклікалі. Напэўна, студзень у Казахстане сапраўды будзе гарачым.

**Рост незадаволенасці сярод насельніцтва накладаецца на выбарчы каляндар, паводле якога 10 студзеня 2021 года павінны прайсці выбары ў Мажыліс (ніжнюю палату парламента) і рэгіянальныя масліхаты (мясцовыя прадстаўнічыя органы)**

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Брахім Галі



Кіраўнік самаабвешчанай Сахарскай Арабскай Дэмакратычнай Рэспублікі і генеральны сакратар POLISARIO — ваенна-палітычнай арганізацыі, якая дзейнічае ў Заходняй Сахары, заявіў пра выхад з пагаднення аб перамір'і паміж урадам Марока і арганізацыяй, якое было падпісана ў 1991 годзе, і пачатак баявых дзеянняў.

Асноўнай прычынай для такога кроку кіраўніцтва POLISARIO называе парушэнні рэжыму спынення агню. Напярэдадні падраздзяленні мараканскай арміі ўвайшлі ў буферную зону і прыступілі да так званага «ўсталявання кардона бяспекі». Пры гэтым мараканцы кажуць, што мэта іх аперацыі — разблакаваць дарогу, перакрытую апалчэнцамі, і аднавіць свабоднае перамяшчэнне тавараў і людзей паміж Маўрытаніяй і Марока. Такім чынам, аднавіўся канфлікт, які працягваецца аж з 1973 года.

Афрыканскія краіны і арабскі свет адразу ахапіла сур'ёзная занепакоенасць у сувязі з апошнімі падзеямі ў Заходняй Сахары. Справа не толькі ў тым, што вядучыя сусветныя лідары не маюць агульнай пазіцыі наконт гэтага пытання.

Так, ЗША, большая частка краінаў Еўропы і арабскага свету прызнаюць права Марока на Заходнюю Сахару. Аднак Расія, Германія, большасць афрыканскіх краін і Алжыр, які падтрымлівае сепаратыстаў зброяй і грашыма, лічаць Заходнюю Сахару рэгіёнам, будучыню якога яшчэ трэба вырашыць.

Важна адзначыць, што аднаўленне канфлікту ў Заходняй Сахары адбываецца на фоне бунту адной з правінцый Эфіопіі супраць цэнтра. У гэтым плане многія баяцца рэнесансу афрыканскага сепаратызму.

### Наная Махута



Прызначэнне 50-гадовай Махута ўрадам лейбарыстаў на пасаду кіраўніка МЗС Новай Зеландыі стала гістарычнай падзеяй. Яшчэ ніколі такое важнае ведамства не ўзначальвала жанчына — прадстаўнік карэннага народа маары.

Лідары маары разглядаюць прызначэнне Махута як аднаўленне гістарычнай справядлівасці. Справа ў тым, што да з'яўлення каланізатараў шматлікімі плямёнамі абарыгенаў кіравалі жанчыны-праваднікі. Гэта, па словах маары, дазваляе называць край першай краінай у свеце, дзе ва ўладзе былі жанчыны. Акрамя таго, вялікую цікавасць публікі выклікала тату на твары новай кіраўніцы дыпламатыі. Татуіроўку, якая размешчаная пад ротам, Наная Махута носіць з чатырох гадоў і адмаўляецца выдаляць. Па яе словах, гэтае тату падкрэслівае яе нацыянальную ідэнтычнасць і нясе сэнсавую нагрузку — дэманструе генеалагічнае дрэва свайго племені.

Застаецца дадаць, што Наная, акрамя іншага, дамагаецца, каб мове маары надалі афіцыйны статус і абавязкова вывучалі яе ў школах, хоць на сённяшні дзень маары складаюць толькі 16 працэнтаў насельніцтва краіны. Увогуле, новы склад урада стаў чарговым эксперыментам вельмі незвычайнага прэм'ера Джасінды Ардэрн. Акрамя прадстаўніцы маары, яна ўключыла ў свой кабінет адразу трох прадстаўнікоў ЛГБТ.

### Юлія Цімашэнка



Экс-прэм'ер і лідар украінскай партыі «Бацькаўшчына» ў чарговы раз змяніла імідж, што стала ва ўкраінскіх медыя сапраўднай інфармацыйнай бомбай. На змену славутай касе, якую Цімашэнка гадамі абгортвала вакол галавы традыцыйным украінскім «каласком», прыйшла завіўка а-ля Меланi Трамп. Дапоўніць строгі імідж палітык вырашыла акулярамі Dior.

Адмову ад касы многія ўспрынялі як канец эпохі. Упершыню Цімашэнка запляла касу падчас акцыі «Украіна без Кучмы» ў 1998 годзе, калі пайшла ў радыкальную апазіцыю. Пасля яна не раз эксперыментавала з прычоскай, спрабуючы сысці ад вобразу «жанчыны-касы», аднак у выніку вярталася да ўласнай класікі.

Многія лічаць, што новы імідж — гэта частка піяр-стратэгіі прыцягнення ўвагі да Цімашэнка, якая цяпер знешне нагадвае прафесійнага менеджара. На фоне дэпутатаў партыі «Слуга народа», частка якіх звязана з шоў-бізнесам, гэта, маўляў, выклікае павагу. Сапраўды, Цімашэнка вярнулася ў палітыку — і адразу пачала актыўна прапаноўваць сябе на пасаду прэм'ера.

Цяжка сказаць, наколькі рэбрэндынг дапаможа ёй атрымаць высокую пасаду. Многіх украінцаў, мяркуючы па інтэрнэт-форумах, абурае кошт адзення і аксэсуараў Цімашэнка, а таксама кошт працэдур па амаладжэнні. Палітыку прыпісваюць таксама адсутнасць сумлення на фоне збяднення ўкраінцаў. Напрыканцы, напэўна, варта дадаць, што 27 лістапада Юліі Цімашэнка споўніцца 60 гадоў.

# «На падман вы мяне
## Да 90-годдзя Уладзіміра Караткевіча



Сяргей ШАПРАН

**Раман Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім» быў упершыню апублікаваны 55 гадоў таму. Пасля яшчэ былі два гады змагання за тое, каб раман выйшаў асобнай кнігай. Два гады, якія на пэўны час выбілі ў Караткевіча глебу з-пад ног, у выніку чаго яго галоўная кніга засталася незавершанай.**

Зрэшты, сам ён пісаў: «Я ведаю: трэба працаваць. Іншага для мяне бадай што і не дадзена. І не трэба чакаць ад жыцця немагчымага. Магчыма, гэта лёс паклаў на плечы якіх-небудзь трыццацёх людзей цяжар цэлага народа, каб даведацца, ці ёсць мяжа сілам чалавечым. І той, хто ўцячэ, — той горш, чым дэзерцір. Таму што астатнім тады будзе яшчэ цяжэй».

### «Скараціць!»

Уладзімір Караткевіч гаварыў, што задума напісаць твор пра паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага ўзнікла яшчэ на пачатку 1950-х гадоў, падчас вучобы ў Кіеўскім універсітэце. Караткевічу было тады крыху больш за дваццаць. Дванаццаць гадоў ён збіраў матэрыялы і гадоў восем пісаў раман — так казаў ён аднаго разу. Хоць, з іншага боку, у адной з запісных кніжак пазначана, што пачатак рамана нарадзіўся 7 жніўня 1959 года ля Азярышча на Рагачоўшчыне, дзе на стромкім адхоне высокага правага берага Дняпра ён убачыў грушу. Аднак у найбольш поўным на сёння выданні «Каласоў...» фігуруе дата 27 красавіка 1962 года. Так ці іначай, але дакладна вядома, калі праца была завершана — у канцы рукапісу ёсць пазнака: «Канец першай кнігі. 18 мая 1964 г. 23.47».

Упершыню «Каласы...» з'явіліся ў 1965 годзе ў лютаўскім-чэрвеньскім нумарах часопіса «Полымя». Праўда, радасці ад таго аўтару было няшмат, бо раман быў надрукаваны не толькі ў скарочаным выглядзе, але дужа знявечаным. Правіў «Каласы...» галоўны рэдактар «Полымя» славуты паэт Максім Танк. Той экзэмпляр «Каласоў...» па сёння захоўвае паметы Яўгена Іванавіча: «Калі ўжо гэта скончыцца!», «Страшэнна ўсё зацягнута», «Гэта трэба скараціць!», «Скараціць!!», «Скараціць!!!» І следам каліграфічна-ўборыстым почыркам аўтара: «Аднавіць», «Аднавіць», «Аднавіць». «За кожнай папраўкай — імкненне зглядзіць, прыгасіць страснасць тэксту Караткевіча, — адзначала адна з каментатараў «Каласоў...» Валянціна Андрэева. — Аўтар піша: "...Сыпанулі насустрач людзі", рэдактар папраўляе: "Выбеглі". У аўтара ляжанка "гарачая", пасля праўкі — "цёплая". Алесь у рукапісным варыянце "ляжаў на возе высока-высока", але ўмешваецца рэдактар — і вось ужо ён толькі "высока ляжаў на возе"...»



Рыгор Барадулін і Уладзімір Караткевіч

**З'яўленне артыкула на старонках друкаванага органа ЦК КПБ , па сутнасці, прыгатавала «Каласам...» лёс двума гадамі раней забароненых «Леанідаў...»**

### «Герцовіч Якаў горка плакаў...»

Пасля першай публікацыі рэакцыя крытыкі не прымусіла сябе чакаць: ужо ў верасні з артыкулам «Лёсы чалавечыя і лёсы народныя» на старонках галоўнага беларускага афіцыёзу — у газеце «Советская Белоруссия» выступіў напаўзабыты сёння Якаў Герцовіч.

Выпускнік Камуністычнага інстытута журналістыкі, сталы супрацоўнік часопіса «Вожык», Якаў Бенцыянавіч меў устойлівую рэпутацыю крытыка-«пагромшчыка». Яго літаратурны густ фарміраваўся ў сталінскія 1930-я гады, што і перадвызначыла накіраванасць яго літаратурна-крытычнай дзейнасці — ён нярэдка сыходзіў са спрошчаных вульгарызатарскіх схем. Рыгор Барадулін гэтак «увекавечыў» гэтае імя:

*Герцовіч Якаў горка плакаў:*
*Жыць мала, а не ўсіх абкакаў.*

«Абкакаў» — гэта і пра Караткевіча, бо Герцовіч не ўпершыню ўжо пісаў пра яго: так, яшчэ ў 1962 годзе ён выступіў з артыкулам «Пошукі, находкі, страты», у якім прад'явіў аўтару рамана «Леаніды не вернуцца да Зямлі» абвінавачванні ў другараднасці, кніжнасці, у тым, што галоўны герой і яго таварышы — адарваныя ад жыцця фармалісты, якіх мала цікавіць змест савецкага мастацтва і яго ідэйная накіраванасць. У той час у СССР паднялася хваля барацьбы з «фармалізмам», якую спарадзіла рэзкая крытыка Хрушчовым маскоўскіх мастакоў падчас наведвання іх выставы. Гэта і справакавала паўсюднае «паляванне на ведзьмаў», у тым ліку ў саюзах пісьменнікаў. І Герцовіч наўпрост трымаў нос па ветры, абвінавачваючы цяпер Караткевіча ў «фармалізме». У выніку «Леаніды...», ужо падрыхтаваныя да друку асобным выданнем, былі забаронены і выйшлі пад назвай «Нельга забыць» толькі праз дваццаць год.

Не даспадобы прыйшлася заўзятаму крытыку і аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха» (тут ён убачыў «элементарнае эпігонства»), а разам з ёй і «Каласы...». Як адзначаў адзін з найбліжэйшых сяброў Караткевіча слынны навуковец Адам Мальдзіс, у тым Герцовічавым артыкуле «Лёсы чалавечыя і лёсы народныя» побач са слушнымі крытычнымі меркаваннямі (аб празмернай дарослласці і рытарычнасці слоў і думак галоўнага героя Алеся Загорскага) было досыць тэндэнцыйных пасажаў з выразным адбіткам вульгарнага сацыялагізму, якім так грашыў Якаў Бенцыянавіч.

Так, да прыкладу, аўтару «Каласоў...» інкрымінавалася, што задуму ён рэалізаваў толькі часткова, і нават на другім плане не знайшоў месца для сацыяльных «нізоў». Што, ідэалізуючы Загорскага, ледзь не пашырае ідэі класавага міру «паміж прыгоннікамі і прыгоннымі» і што «зноў прадэманстраваў абмежаванасць свайго гістарычнага бачання». І вердыкт як прысуд: аўтар «Каласоў...» паспяшаўся з публікацыяй, яму трэба нямала яшчэ папрацаваць над раманам, «каб у ім зліліся ў адно лёсы чалавечыя і лёсы народныя, загаварыла поўным голасам сапраўдная гісторыя».

Гэткім чынам аўтар «вожыкаўскіх» фельетонаў і процьмы літкрытычных пасажаў Якаў Герцовіч фактычна патрабаваў ад Уладзіміра Караткевіча напісаць новы, прынцыпова іншы твор. З'яўленне ж артыкула на старонках друкаванага органа ЦК КПБ не проста забяспечвала яму свайго роду дырэктыўнасць — па сутнасці, рэцэнзія прыгатавала «Каласам...» лёс двума гадамі раней забароненых «Леанідаў...». Гэта была міна запаволенага дзеяння, якая ў любы момант магла здэтанаваць.

І ў сапраўднасці так яно і адбылося, прычым даволі хутка — калі Караткевіч прапанаваў раман выдавецтву «Беларусь», узначальваў якое Захар Матузаў, не літаратар і не сябар Саюза пісьменнікаў, а партфункцыянер і стаўленік усё таго ж ЦК.

# не штурхняце»

**«Аўтар павінен зрабіць сваю кнігу лепшай»**

Паводле тагачаснай выдавецкай практыкі, перш чым выдаць твор, на яго павінна была быць напісаная так званая закрытая рэцэнзія. У выпадку з «Каласамі...» гэтая місія была ўскладзена на вядомага пісьменніка, пазаштатнага рэцэнзента «Беларусі» Аляксандра Амвросьевіча Каратая, больш вядомага пад літаратурным псеўданімам Максім Лужанін. Да сваёй справы ён падышоў надзвычай адказна — яго рэцэнзія займае 74 машынапісныя старонкі падрабязнейшага аналізу рамана. І хоць яе пачатак абнадзейваў: «Перш за ўсё словы, якімі звычайна канчаюць рэцэнзіі: раман Ул. Караткевіча мае ўсе падставы перайсці са стану рукапісу ў стан друкаванай кнігі», аднак сама рэцэнзія мела ледзь не спрэс негатыўна крытычны характар. Практычна ўсе 74 старонкі за вельмі рэдкім выключэннем.

Так, ужо ад пачатку пярэчанні ў Максіма Лужаніна выклікаў не толькі самы зачын (эпіграфы і прысвячэнне маці Караткевіча Надзеі Васільеўне; увогуле, першапачаткова прысвячэнне гучала так: «Маці маёй, кожнай беларускай маці, прысвячаю»), але нават назва. Прывядзём тут пачатак рэцэнзіі, каб чытач меў уяўленне пра стыль і скрупулёзную, калі не казаць больш — педантычную ўедлівасць аўтара:

«І. НАЗВА РАМАНА, ЭПІГРАФЫ, ПРЫСВЯЧЭННЕ І ВЕРШАВАНАЯ ЗАПЕЎКА

Маюць відавочную сувязь і ў той жа час знаходзяцца ў пэўнай супярэчнасці. Аб'ядноўвае іх перш за ўсё евангельскае паходжанне і афарбоўка.

Эпіграфы звязаны з легендай аб тым, як Хрыстос пяццю хлебамі і дзвюма рыбкамі накарміў пяць тысяч чалавек, як потым адказваў садукеям і фарысеям і як тлумачыў свае адказы апосталам. Усё гэта трэба ведаць, каб зразумець кірунак аўтарскай думкі, інакш яна пройдзе не закрануўшы чытача.

Наўрад ці ў наш час сур'ёзная кніга аб гістарычных лёсах народа патрабуе падмацавання ў евангельскай філасофіі, тым больш што яна не асэнсоўвае крыві чытача. У першым эпіграфе (ад Лукі) выразна чуваць матыў усецярпення і ахвярнасці. У гэтым яго сувязь з назвай твору і прысвячэннем.

На першы погляд, назва "Каласы пад сярпом тваім" не выклікае пярэчанняў. Сапраўды, шлях да свабоды, сацыяльнага вызвалення людзей — пакутлівы, цяжкі, усеяны незлічонымі стратамі. Але ці правамерна думаць, як прасочваецца ў друку, што "падзеі 1863 года — гэта велічнае і трагічнае жніво, дзе серп гісторыі жне дзеля таго, каб наступныя пакаленні маглі правесці новы пасеў".

Так гаварыць, па меншай меры, антыгуманна, такім чынам як бы апраўдваецца цынізм, бо яму надаецца роля "сярпа гісторыі", які сцінаў "каласы" (жывых людзей, лепшых з іх) на глум, каб ніводнае зерне не прарасло і не пайшло на духоўную спажыву. Тым часам гісторыя, вальналюбства народа накіравалі справу іначай і ў выніку праз 60 год прыйшло Кастрычніцкае вызваленне. [...]

Якой бы павабнай і змястоўнай ні здавалася метафара "жніва", яна не выражае сутнасці з'явы, тут куды бліжэй метафара "глебы", бо на ёй растуць людзі і спеюць паўстанні. Вось чаму, на мой погляд, назва твору не нясе ў сабе сапраўднай канцэпцыі рамана».

Аднак няправільна было б казаць, што літаральна ўсе выказаныя рэцэнзентам заўвагі былі беспадстаўнымі — у нечым Максім Лужанін, безумоўна, меў рацыю. Між іншым, ужо ў першых радках ён зазначаў: «Вельмі здольная рука напісала значны і цікавы твор, можа быць, першы гістарычны раман у нашай літаратуры, запаўняючы прабел не толькі на чытацкіх паліцах, а перад усім у нашым веданні карцін мінулага часу, гераічных і трагічных падзей напярэдадні паўстання 1863 года. [...] ...У гістарычнай тэме Ул. Караткевіч знайшоў сябе як пісьменнік і гістарычная тэма ў нас знайшла свайго пісьменніка».

Але разам з тым многія палажэнні Лужанінскага трактата прымушалі аўтара «Каласоў...» грунтоўна перапрацаваць раман і зрабіць гэта ў адпаведнасці з тагачасным вульгарна-сацыялагічным уяўленнем пра XIX стагоддзе наогул і пра беларусаў у прыватнасці. «... Аўтар павінен зрабіць сваю кнігу лепшай, падняцца да ўзроўню бездакорнасці...» — пісаў рэцэнзент.

І, прыняўшы многія з тых заўваг (у выніку аб'ём рамана значна паменшыўся — Караткевіч гаварыў пасля: «Заўвагі Лужаніна я прыняў, але з 70 аркушаў я давёў іх да 50 аркушаў. Тыя заўвагі, якія не маглі пашкодзіць асновам майго рамана, я прыняў»), аўтар «Каласоў...», тым не менш, не зрабіў галоўнага — таго, пра што і пісаў Максім Лужанін: «Чытаючы і ацэньваючы раман, не будзем ні на хвіліну забываць аўтарскую задачу: напісаць гістарычны твор пра жыццё народа, а не хроніку фаміліі князёў Загорскіх. Апошняе было б занадта вузка і не варта намаганняў сучаснага мастака, чыя цікавасць і ўмельства не могуць не быць скіраваны на жыццё народа, выспяванне рэвалюцыйнай сітуацыі і перадумоў выбуху паўстання».

Да таго ж Лужанін лічыў, што «трэба паставіць правільна мастацкія і сацыяльныя акцэнты», адзін з якіх заключаўся ў наступным: «Дом Загорскіх, бацька, маці, іх багацце, выхаванне Алеся апісаны з веданнем тагачаснага жыцця, на дастойным літаратурным узроўні. Аднак ёсць ва ўсім гэтым пэўная доля замілавання, многія апісанні з'яўляюцца як бы самамэтай, а не сродкам паставіць сацыяльныя акцэнты. Вельмі мала тут адносін Алеся да асяроддзя,


96

У сакратарыят Саюза пісьменнікаў Беларусі
ад пісьменніка
Караткевіча У. С.

Заява

Я здаў раман „Каласы пад сярпом тваім" у выдавецтва „Беларусь" два гады назад. Рэцэнзію на раман пісаў М. Лужанін. Некалькі месяцаў пасля таго я сядзеў над рукапісам, дапрацоўваючы яго.

Цяпер у выдавецтве з раманам зноў узніклі цяжкасці. Патрабуюць змяніць канцэпцыю (а яна ў мяне, лічу я, адпавядае эпосе, якую апісваю, норавам людзей, праўдзе аб паўстанні 1863-64 гг), адсунуць на другі план галоўных герояў, прыпісаць сялянству тую ролю ў паўстанні, якую яно пачало адыгрываць значна пазней (аб чым будзе ў другой часціны рамана).

Прашу сакратарыят Саюза пісьменнікаў абмеркаваць мой раман і выказаць сваю непрадузятую думку аб ім, з тым, каб кончыць з гэтымі бясконцымі, неабгрунтаванымі затрымкамі.

У. Караткевіч

17 кастрычніка 66 г.

**Заява Уладзіміра Караткевіча ад 17 кастрычніка 1966 года ў сакратарыят Саюза пісьменнікаў з просьбай абмеркаваць раман «Каласы пад сярпом тваім». Захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва**

куды ён трапіў пасля вясковай хаты, мала "вачэй", калі можна так сказаць, хлапчука, з якога пачынаюць выбіваць любае яму, мужычае. Відаць, не з замілаваннем глядзіць ён на незлічоныя багацці (бацькі і дзеда), а здзіўлена і крыху трагічна, наколькі дазваляе яму ўзрост. [...]

Аўтар ведае, і добра было б, каб гэта веданне перадавалася чытачу, што магнацкія скарбы, здабыткі старажытнага дойлідства, жывапісу — геній народа, яго пот і кроў. Гэта нас дзівіць і ўражае, але захапленне мастацкімі каштоўнасцямі не можа пераносіцца на тых, хто імі ўладае».

І ў выніку чарговы — следам за Герцовічам — прысуд: «Паказ беларускай вёскі, беднай, праз якую і для якой адбылося паўстанне, — першае, аб чым мусіць быць аўтарскі клопат. Аўтар вольны ў выбары сродкаў — увесці яшчэ вёску, яшчэ сялянскую сям'ю або некалькі іх — бясспрэчна адно, што такія сродкі павінны быць знойдзены ў імя гістарычнай і мастацкай праўды».

**«Выдаць не ўяўляецца магчымым»**

Апошнюю кропку ў сваёй знішчальнай ацэнцы Аляксандр Амвросьевіч паставіў 30 лістапада 1965 года. Другую рэцэнзію пісаў ужо рэдактар выдавецтва «Беларусь» Леў Салавей, крытык і пераважна перакладчык з рускай, а па сумяшчальніцтву рэдактар будучай Караткевічавай кнігі.

Пазней Льва Антонавіча будуць папракаць у тым, што ў яго няма сваёй уласнай пазіцыі па раману, што ён спасылаецца выключна на заўвагі Лужаніна. І сапраўды, у сваёй рэцэнзіі ён не раз засведчыў, што не бачыць патрэбы зноў паўтараць тое, што «падрабязна, грунтоўна і, галоўнае, доказна» «напісаў на 74-х старонках пазаштатны рэцэнзент Максім Лужанін». Зрэшты, галоўнае ў рэцэнзіі Салаўя было іншае — тое, што ён казаў асабіста Караткевічу і што не наважыўся потым паўтарыць публічна, а менавіта: «Выдаць у гэтым выглядзе раман не ўяўляецца магчымым».

Гэта быў яшчэ адзін несуцяшальны вердыкт, які вынес штатны супрацоўнік выдавецтва і рэдактар кнігі. Пасля гэтага ўсе хай сабе шчырыя рэверансы і салаўіныя хваласпевы на адрас аўтара «Каласоў...» («Перагарнуўшы апошнюю старонку гэтага аб'ёмнага рукапісу, міжвольна спыняеш сваю ўвагу на маштабнасці аўтарскай задумы, на незвычайнай працавітасці пісьменніка, які паставіў перад сабою задуму асвятліць мастацкімі сродкамі адзін з цікавых перыядаў у гісторыі нашага народа...» і г. д., і г. д.) не мелі ўжо абсалютна ніякага значэння. Напісаўшы ўласнаручна, што твор выдаць «не ўяўляецца магчымым», Леў Антонавіч Салавей (каму цяпер вядома гэтае імя?) падпісаў раману смяротны прысуд.

Аднак у чым жа заключаліся прэтэнзіі шараговага супрацоўніка ведамства Захара Пятровіча Матузава? Па сутнасці, яны былі ўсё тыя ж — лужанінскія. Л. Салавей пісаў:

«Сапраўды, пры ўважлівым чытанні многіх соцень старонак рамана хочаш не хочаш, а міжвольна складваецца ўражанне, што перад намі не гістарычнае мастацкае палатно, на якім павінна было б знайсці адлюстраванне жыццё заняволенага народа, а нейкая хроніка княжацкага роду Загорскіх з самым падрабязным пералікам усяго, што думалі і рабілі яго прадстаўнікі. Атрымаўся вельмі прыкметны і, на маю думку, нічым не апраўданы перакос, які наносіць ідэйна-мастацкую шкоду твору. Паставіўшы на першы план такіх герояў, як князь Алесь Загорскі, яго дзед, бацька і некаторых іншых, пісьменнік тым самым шчыльна засланіў імі ўсё, што рабілася за тоўстымі сценамі палацаў. Мы фактычна не бачым народа, не ведаем яго дум, не ўяўляем яго жаданняў, не адчуваем на поўную сілу яго гневу і крыўды на беспрасветнае, нечалавечае сваё існаванне. І разам з тым са скрупулёзнасцю незвычайнай Ул. Караткевіч апавядае і паказвае нам незлічонае багацце гаспадароў Загоршчыны і іншых "дваранскіх гнёзд" Прыдняпроўя, дзе кожны камень быў абліты потам і крывёю простага чалавека — сапраўднага творца гэтых каштоўнасцей. [...]

Зрушыўшы сацыяльныя акцэнты, аўтар тым самым не толькі нанёс твору страты ў ідэйным плане, але і ў мастацкім. Атрымалася відавочная аднабокасць у паказе народнага руху напярэдадні 1863 года і тым самым аднабокасць у абмалёўцы пэўнага гістарычнага перыяду.

У рамане, нават пасля аўтарскіх скарачэнняў, засталося дужа многа непатрэбных сцэн і апісанняў, якія страшэнна загрувашчваюць кнігу, робяць яе расцягнутай і пульхнай і, безумоўна, не надаюць ёй неабходнай сюжэтнай стройнасці. Лірычныя адступленні часам настолькі мнагаслоўныя, што збіваюць увагу чытача на другараднае або выводзяць яго за межы часу і прасторы.

Доўга і шмат можна гаварыць пра хібы твора. Яны раскіданы па многіх раздзелах. Адны больш дробныя і іх параўнальна няцяжка пазбегнуць. Другія куды сур'ёзней і выправіць іх адным росчыркам пяра ніяк нельга, бо звязаны яны з канцэпцыяй, якая вылілася ў неадпавядаючыя гістарычнай праўдзе формы адносін паноў да сялянства і сялянства да паноў. Менавіта на гэтым трэба аўтару засяродзіць усю сваю ўвагу».

Разам з тым Л. Салавей адзначаў, што калі многія «прыватныя заўвагі і прэтэнзіі» першага рэцэнзента ў абсалютнай большасці прыняты аўтарам («Уладзімір Караткевіч, на вялікі жаль, прыняў якраз другараднае, усё тое, што больш-менш выпраўлялася»), дык «крытычныя заўвагі больш сур'ёзнага характару», на якіх і трымаецца ідэйная канцэпцыя рамана, аўтар «адхіліў ці пакінуў без належнага крытычнага асмыслення». І хоць, на думку рэцэнзента, «выправіць усе адзначаныя Максімам Лужаніным хібы, справа не з лёгкіх, аднак абсалютна неабходная. І кампрамісу тут не можа быць».

**Працяг у наступным нумары**

# Ці вытрымае ўлада другую хвалю каронавіруса?

Сяргей КАЙКО

**Ужо больш за 100 дзён Беларусь пратэстуе супраць фальсіфікацыі выбараў і зверстваў сістэмы. Што будзе далей? — гэта ці не самае папулярнае сёння пытанне.**

Адзін з адказаў гучыць так: першая хваля каронавіруса — першая хваля пратэстаў — другая хваля каронавіруса — другая хваля пратэстаў. І ў выніку — перамога, адна на ўсіх.

### Козачкі не дапамаглі

«Напэўна, апошняй кропляй стаў кавід. Я думаў, калі Беларусь пакіне без увагі паводзіны ўладаў у гэтай сітуацыі — гэта рэальна край. Але паднялася грамадзянская супольнасць, якая сфарміравала паралельную сістэму», — гэта словы Віктара Бабарыкі з інтэрв'ю «Салідарнасці» яшчэ ў траўні. Гэта тлумачэнні, чаму паспяховы банкір, у якога ёсць усё для поўнага шчасця, вырашыў балатавацца ў прэзідэнты.

Паўгода мінула з тых сонечных дзён, Бабарыка даўно ў вязніцы, аднак мы памятаем, з якой пагардай Лукашэнка і яго атачэнне ставіліся да пандэміі. Ён гаварыў, што вірус нідзе не лятае, яго не відаць, а калі раптам што, то ёсць шмат метадаў лячэння гэтага «псіхозу». Трактар, чарка гарэлкі, лазня, козачкі. Людзі ў гэты час паміралі, медыкі выбіваліся з сіл, а валанцёры, рызыкуючы здароўем, дапамагалі і адным, і другім... Так стваралася паралельная рэальнасць — у якой не было месца дзяржаве з яе архаічнымі метадыкамі, крывадушнай статыстыкай Мінздароўя і грэблівым стаўленнем да чалавечага жыцця.

У выніку пандэмія расплюшчыла беларусам вочы — і гэтыя вочы ўбачылі тое, чаго не заўважалі раней. У грамадстве паскорыліся эвалюцыйныя працэсы, здарылася пераацэнка каштоўнасцяў.

### Рэкорды ўжо перапісаныя

Што было далей, мы ведаем. Вечар 9 жніўня, «элегантныя» 80 працэнтаў, шматтысячныя пратэсты, збіццё, арышты і гвалт. Усё гэта працягваецца па сённяшні дзень, хай нават сілавікі ва ўмовах усеагульнай мабілізацыі і не даюць беларусам сабрацца на суцэльныя нядзельныя маршы. Затое збіраюцца пенсіянеры, адважна пратэстуюць медыкі, на прадпрыемствах пашыраюцца спісы страйкоўцаў, а заходняя супольнасць паэтапна ўводзіць санкцыі супраць вышэйшага кіраўніцтва Беларусі.

І да ўсяго — падкрадваюцца халады, а разам з імі краіну акупуе другая хваля пандэміі, руйнуючы старыя статыстычныя рэкорды і ўсталёўваючы новыя, усё больш жахлівыя.

Як бы ні было адвочным тое, што Мінздароўя бессаромна і ў разы заніжае лічбы распаўсюду інфекцыі, агульных трэндаў за гэтым не схаваць. У новай фазе кавіда тысячная мяжа даўно перасягнутая — і графікі спакваля набліжаюцца да 1500 штодзённых выпадкаў.




> **«Sociolytics» падкрэслівае, што крытычна пераацаніць свае інфармацыйныя крыніцы беларусаў вымусіла менавіта пандэмія каронавіруса**

А за статыстыкай — рэальнае жыццё, якое агаломшвае падрабязнасцямі і чалавечымі гісторыямі. У таго сваяк памёр ад двухбаковай пнеўманіі, у гэтага сусед у рэанімацыі пад ШВЛ, а тыя захварэлі ці не цэлым офісам.

Эпідэмія ахоплівае спартыўныя каманды, і тыя адмяняюць спаборніцтвы. ВНУ ўсё больш шчыльнымі радамі сыходзяць на дыстанцыйнае навучанне. Бальніцы ліхаманкава перапрафілююцца, адкладваюць планавую шпіталізацыю, каб засяродзіцца на COVID-19. У РНПЦ дзіцячай анкалогіі нават давялося адкласці аперацыі, як паведамляе тэлеграм медыкаў «Белыя халаты»: «З пяці аперацыйных медсясцёр працуе толькі адна. У траіх іншых выяўлены каронавірус. Яшчэ адна, Жанна Вашкевіч, аперацыйная медсястра з 30-гадовым стажам, адбывае адміністрацыйны арышт у Магілёўскай турме».

### Шырма для перадзелу

Відавочна, што для Лукашэнкі і яго чыноўнікаў настае чарговы момант ісціны. Як ставіцца да пандэміі — і да людзей? Здаецца, адказ ужо вядомы.

«Гэта псіхоз, самы сапраўдны, ва ўсім свеце. Яшчэ раз падкрэсліваю тое, што казаў да выбараў: камусьці гэта выгадна. Цяпер мы ўжо бачым, каму... Свет цяпер пачалі перакройваць. І кавід — гэта не медыцынскі тэрмін. Гэта не толькі і не столькі хвароба. Гэта нават не эканоміка сёння. Гэта ўжо глабальная палітыка. Пачалі перакройваць свет. Успыхнулі ўсюды бунты. Але ці тое яшчэ будзе ў сувязі з наступствамі абвалу эканомікі». І карацей пра тое ж самае: «Каронавірус — гэта толькі нагода, шырма, за якой глабальныя гульцы чарговы раз намагаюцца перадзяліць свет на свой лад», — сказаў Лукашэнка.

Нейкія дзеянні ўлады ажыццяўляюць — праводзяць нарады па кавіднай тэматыцы на вышэйшым узроўні, ствараюць рэгіянальныя штабы па барацьбе з інфекцыяй, ускладаюць адказнасць на абласных кіраўнікоў. Але ў нашай патэрналісцкай рэальнасці ўсе дарогі і памкненні так ці інакш вядуць у галоўную кіраўнічую адміністрацыю. А там дагэтуль нават маскі начапіць лічыцца слабасцю і маветонам.

Так было — і, хутчэй за ўсё, так застанецца. Бо ўключаць задні ход, прызнаваць і выпраўляць памылкі, фіксаваць чужую слушнасць — гэта таксама слабасць, якая не пасуе сапраўдным каўбоям. Каўбой заўсёды мае рацыю, а хто не згодны, той злазь з каня. А хто супраць, той яшчэ пашкадуе. У таго, як у Новай Баравой, па дзіўным супадзенні, могуць знянацку знікнуць у кватэры вада і цяпло.

### 12 працэнтаў даверу

Другая хваля «кароны» дакладна стане чарговым выпрабаваннем для сістэмы, пабудаванай на прынцыпах сваёй непазбыўнай выключнасці. Выпрабаваннем на гнуткасць, гатоўнасць пачуць зваротную сувязь.

Раней сітуацыю ўдавалася згладжваць за кошт прапаганды, але сёння для дзейнай улады і тут дрэнныя навіны. Узровень даверу да дзяржаўных медыя апошнім часам крытычна зменшыўся. Пра гэта сведчаць вынікі спецыяльнага комплекснага даследавання, праведзенага нядаўна брытанскай аналітычнай кампаніяй «Sociolytics». Вынікі зусім сумныя для адэптаў цэнтральнага тэлебачання і адвентыстаў дзяржаўных газет.

Згаданая вышэй сацыялогія, у прыватнасці, паказвае, што большасць беларусаў — 54,3% — цяпер аддае перавагу незалежным медыя, і толькі 29,4% — дзяржаўным (астатнія 16,3% выкарыстоўваюць абедзве крыніцы). Другі прыклад: 43,3% жыхароў Беларусі наогул ніколі не глядзяць перадачы АНТ, СТВ, «Беларусь 1» ці «Беларусь 2». І, нарэшце, лічбы, ад якіх недзе ціха засмуткуе малодшы Азаронак: цяпер доля тых, хто давярае беларускаму тэлебачанню і друкаваным СМІ, складае не больш за 12%, апытаных «Sociolytics».

Вы спытаецце, прычым тут «кавідная» тэма? Ды ўсё пры тым жа. «Sociolytics» падкрэслівае, што крытычна пераацаніць свае інфармацыйныя крыніцы беларусаў вымусіла менавіта пандэмія каронавіруса. І — калі падрабязней — асвятленне тэмы ў праўладных СМІ. Людзі больш не вераць дзяржаўным медыя, колькі б дасведчаных памагатых Мінск не выпісваў з Масквы ў межах творчага супрацоўніцтва двух роднасных рэжымаў.

У бядзе пазнаецца не толькі сябар — увогуле чалавек, грамадства, сістэма. Першая хваля пандэміі прынесла беларусам шмат гора, але заадно прачысціла вочы і мазгі. Хваля другая — ужо пабач, і калі вы засумавалі ад таго, што перамены ў краіне адкладваюцца, то яшчэ не вечар. Беражыце сябе, засцерагайцеся ад гэтай кавіднай халеры і верце ў лепшае — у суайчыннікаў і іх фенаменальную салідарнасць. Напярэдадні зіма, дровы назапашаныя, і беларуская ўлада яшчэ гэтых дроў наламае па сваёй старой і непапраўнай звычцы. І сама наблізіць доўгачаканыя сонечныя дні.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1958

Падпісана да друку 19.11.2020. 8.00. Наклад 2300 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.